

# А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...

У ДАПАМОГУ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

Бясплатны дадатак да часопіса «Маладосць» № 5 1963 г.

**Аміран ШАРВАШЫДЗЕ**

# ДЗЯЎЧЫНА З САНТ'ЯГА

## (Віва Куба!)

**П'еса ў 3-х дзеях**

**Дзеючыя асобы:**

Антоніа Камаса, Каміла, Гільерма, Ліка, Хакоба, Алонса, Педра, Гарсіа — партызаны.
Расарыа Эрнандас — паэтэса.
Кладаміра Эрнандас — яе дачка.
Ігнасіа Банітэ — брат паэтэсы Расарыа, буйны плантатар.
Рыкарда Масфарэра — прадстаўнік рэакцыйнай моладзі Кубы.
Хуан Радрыгес — генерал, кіраўнік карных атрадаў войск Батысты.
Ральф Брогар — буйны прамысловец са Злучаных Штатаў.
Мерсадэс — багатая жанчына з Гаваны.
Веласка — свяшчэннік.
Слуга ў доме Эрнандас.
Салдаты.
Партызаны.

Куба, 1956—1959 гг.

## ПРАЛОГ

Ноч. Бераг. Балота. Удалечыні сціхаюць стрэлы. З цемры паяўляюцца барадатыя людзі ў мокрым, брудным адзенні. Іх трое.

Гільерма. Трымайся, Каміла... Яшчэ трохі... Шакалы... Высачылі.
Каміла *(прыхінуўшыся да дрэва)*. Пахне... Радзімай пахне, Гільерма.



Гільерма. Колькі нас асталося? Я бачыў, чацвёра прыкрывалі адыход, з імі Фідэль і Гевара. Рызыканты.
Каміла. Пакуль асталося трое... Ты, Гарсіа і я. Гэта напэўна. Але, па-мойму, яшчэ той-сёй адбіўся.
Гарсіа. Нішто сабе цябе зачапіла...
Каміла. Пацэліў, свінячае вуха, у плячо, каб яго з музыкай хавалі... Цяпер які я ваяка? Рука — чужая.
Гільерма. Чуеш, ідуць... Трэба падаць знак, а то пройдуць міма.
Каміла. Не пройдуць. Гэта адзіная дарога. А там жабіна царства. Брыдкае стварэнне — жаба.

Нехта ламае сучча.

Гільерма. Эй, давай сюды! Тут суха.
Ліка *(паяўляючыся)*. Ты, Гільерма? Нарэшце!
Гільерма. Мы знайшлі сухое месца. Тут можна аддыхацца... Колькі нас асталося?
Ліка. Ты дзесяты. А гэта хто з табой?
Гільерма. Каміла. Ён паранены. І Гарсіа.
Ліка. Значыць, дванаццаць.
Каміла. А як Фідэль?
Ліка. Думае! А навошта думаць, калі ўсё прапала?! Столькі працы, столькі намаганняў, столькі ахвяр, і ўсё — дарэмна.
Гільерма. Што ты гаворыш, Ліка! Калі даведаецца Фідэль...
Ліка. Хіба Кастра сам не адчувае гэтага? Такім сумным я яго ніколі не бачыў. Не жартачкі — усё прапала!..
Гарсіа. Мудрэц сказаў: усё загіне тады, калі загіну я. А мы ж асталіся жывыя, значыць, наша справа таксама жыве. У сапраўднага змагара толькі смерць можа адабраць веру ў перамогу.
Ліка. Мана і здрада — горш за смерць.
Гарсіа. Мудрэц сказаў: калі табе не дагадзіла прырода, не вінаваць чалавека. Наша шхуна многа часу патраціла ў змаганні з акіянскімі хвалямі, і мы спазніліся на два дні. Гэта і стала прычынай няўдачы.
Ліка. Хто тоне, хапаецца за саломінку.
Каміла. Выходзіць, ты безнадзейна глядзіш на нашу справу?
Гарсіа. Мудрэц сказаў: калі няма надзеі, не думай пра будучыню.
Ліка. Не думаю. Усяму канец. І надзеям...
Каміла. Не пазнаю цябе, Ліка!
Гарсіа. Мудрэц сказаў: расчараваны ў сваіх надзеях і той, хто ляжыць у магіле, — адно і тое ж.
Ліка. Нам не паможа адна надзея, калі няма магчымасці яе ажыццявіць. Было нас каля сотні, дзёрзкіх і смелых хлопцаў, а засталося дванаццаць, без боепрыпасаў, без прадуктаў... дванаццаць супраць дзяржавы, дванаццаць супраць рэгулярнай арміі... Дзе гарантыя, што і нас не знішчаць? Трэба разыходзіцца па дамах і пачынаць усё нанава...
Каміла. Не пазнаю цябе, Ліка!
Ліка. Так, гэта гавару я! Я! Трэба глядзець праўдзе ў вочы. Мы разгромлены.
Каміла. І гэта кажаш ты! Ты, хто два гады быў разам з намі! Ты, хто многа разоў даказваў сваю стойкасць у барацьбе з ворагам... Цябе падводзяць нервы. Дванаццаць — армія, Ліка! Сёння нас дванаццаць, а заўтра будуць тысячы. Трымайся, Ліка, я веру ў цябе. Ідзі, Ліка, ідзі і скажы Фідэлю, што мы тут і чакаем яго сігналу.
Ліка. Добра... *(Ідзе.)*
Гільерма. Які заўтра будзе дзень? Усё даждж і даждж...

На ўсё жыццё надакучылі. Ні прасохнуць, ні сагрэцца. Пракляцце... Ты чаго маўчыш?

Каміла. Я ўспамінаю дом, Гільерма. Мяне ўжо, напэўна, перасталі чакаць. І вось я дома. Не, я не хачу ступіць на парог стомлены. Я не хачу быць яшчэ адным няшчасным у сваёй сям'і. Я пакляўся прынесці ў дом сонца. Мы ўсе кляліся... Памятаеш? Фідэль, ты, я — усе мы, жывыя, і тыя, хто загінуў. Мілая зямля, мы гібелі ў далёкай Мексіцы, глыталі церпкі пыл яе саванаў, цярпелі пагарду, каб выстаяць і вярнуцца да цябе... Мы вярнуліся, зямля! Мы вярнуліся, Куба... Слухай, Гільерма. Я веру, Куба будзе свабодная, Куба будзе спяваць вольныя песні, шчаслівыя песні.... І мы будзем спяваць, Гільерма...

Гільерма. Усё магло быць інакш, каб не шторм... Трэба падавацца ў горы. Толькі там можна ўратавацца.

Каміла. Не ратавацца мы павінны, а змагацца.

Гільерма. Кроў ідзе?

Каміла. Ідзе... І не спыніць.

Паяўляецца Ліка.

Ліка. Загад — прабірацца ў горы С'ера-Маэстра, ва ўмоўленае месца.

Каміла. Малайчына Фідэль! Не разгубіўся.

Гільерма. Я ведаю дарогу, Каміла. Я памагу табе. Мы пойдзем хутка. Там прыгожа, у гарах, вельмі прыгожа...

Ліка. Я з вамі. Пойдзем невялікімі групамі. Фідэль ужо выступіў.

Гільерма. І не адпачылі?

Ліка. Адпачываць няма калі.

Каміла. Гільерма, у цябе ёсць белая анучка?

Гільерма. Навошта табе?

Каміла. Мне падабаецца гэтае месца... Хачу пакінуць адзнаку на ўспамін.

Ліка. Глядзі, гэта след для шпегаў...

Каміла. Гэты след шпегі даўно ўчулі... Але ён не па іх зубах.

Гільерма. На... *(Здымае кашулю.)*

Каміла. У мяне рука не слухаецца... Пішы: «Тут нарадзілася свабода Кубы».

Гільерма *(Ліку)*. У цябе ёсць чым пісаць?

Ліка. Не.

Гільерма. Вада не пакідае знаку. А больш няма чым.

Каміла. Развяжы павязку на маім плячы. Пішы.

Гільерма піша.

Гільерма *(Камілу)*. А цябе парадкам скубанула...

Каміла. Ты пішы, пішы... Мая рука зажыве.

Гільерма. Трохі нязграбна, праўда? Літары крывыя...

Каміла. Не, ты добра напісаў.

Ліка. Гэта ты добра прыдумаў. Калі-небудзь мы паставім тут помнік таварышам, што загінулі.

Гільерма вешае анучку.

Каміла *(ціха чытае)*. «Тут нарадзілася свабода Кубы...» Нарадзілася, хлопцы... Вы разумееце?

Гучыць музыка.

Паклянёмся ж сцягу «Руху 26 ліпеня», нашаму народу, нашай свяшчэннай зямлі Арыенце, Лас-Вільяс, С'ера-Маэстра! Родная зямля, мы, твае сыны, клянёмся, што да апошняй кроплі крыві, да апошняга дыхання будзем змагацца за цудоўную будучыню радзімы!

Гільерма. }
Ліка. } *(разам)*. Клянёмся!



І, як уздых зямлі, за кулісамі чуецца: «Клянёмся!»

Каміла. Да таго часу не выпусцім з рук зброі, пакуль не знішчым прыгнёт і не выганім янкі, пакуль радзіма наша не стане свабоднай і незалежнай!

Усе. Клянёмся!

І зноў як бы ўздых: «Клянёмся!»

Каміла. Патрыа о муэртэ! Радзіма або смерць!

Усе. Патрыа о муэртэ!

Каміла. Куба — кубінцам! Куба — сі, янкі — но! Венсарэмас!

Усе. Венсарэмас!

Каміла. Салют!

Стрэлы.
Заслона.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## Карціна першая

Пакой у доме Эрнандас. Банітэ сядзіць ля стала, чытае газету і п'е віскі.

Банітэ *(чытае)*. «Жамчужына Антыльскіх астравоў, казачны рай, краіна сонца...» Ведалі б гэтыя прадажныя пісакі, як у гэтым раі пахне крывёй... *(Кідае газету.)* Нядзельная спажыва для бяззубых і жабракоў. *(Глядзіць на бакал. П'е.)*

Уваходзіць Кладаміра.

Кладаміра. Чаму ты пайшоў ад гасцей? Яны думаюць, што табе не падабаецца іх кампанія.

Банітэ. Мне надакучыла іграць ролю пасрэднага клоуна. І потым, на маю думку, усе цяпер вельмі паразумнелі, і развесяліць такую пераборлівую кампанію можа толькі адна штука. *(Стукае па бутэльцы.)*

Кладаміра. Ну-ну, даволі хандрыць. Давай вып'ем за мой дзень, за маё шчасце. Я еду ў Гавану... Рыкарда абяцаў, што мяне прымуць у тэатр Педра Эрэйра...

Банітэ. Чаму не выпіць? Усё роўна піць. Якая розніца, за што...

Кладаміра. Ты не рады майму шчасцю?

Банітэ. Мне здаецца, ён прайдзісвет. У гэтых знатных гаванцаў рэдка калі бываюць чыстыя душы.

Кладаміра. І добрыя сэрцы? Ты несправядлівы, дзядзя!

Банітэ. Усе мы добрыя, пакуль нас не возьмуць за горла. А тады мы пачынаем успамінаць такое, што аж дрыжыкі б'юць. Мы зараз сядзім на бочцы з порахам, і адзіная разумная рэч — напіцца да свінячага віску. Я, бачыш, спрабую. *(Валіць нагой пад сталом бутэлькі.)*

Кладаміра. Дзядзя, у цябе непрыемнасці? Чаму ты маўчыш? Скажы!

Банітэ. Глупства! Усяго-наўсяго згарэлі склады з цукрам. У Эль-Кобрэ... Цяпер табе давядзецца забыць пра брыльянты і пра паездку ў Штаты. Жабракі нікому не патрэбны... А я павінен плаціць няўстойку закупшчыку.

Кладаміра. Чаму ты такі спакойны, дзядзя? Мне страшна! Хто пасмеў гэта зрабіць? Вы злавілі бандытаў, дзядзя?

Банітэ. Не, гэта быў адзін порсткі хлопец.

Кладаміра. Ты ведаеш яго?

Б а н і т э. Так. Ён нават пакінуў запіску. Калі выйдзе так, як яны хочуць, я, хціўы плантатар, буду ўпрыгожваць слуп... Нічога сабе ўпрыгожванне выйдзе з мяне, праўда?

К л а д а м і р а. Ты змрочна жартуеш. Дзядзя, хто ён?

Б а н і т э. Тут адчуваецца рука Антоніа Камача. Ты яго ведаеш як пісьменніка. Але ён, выходзіць, сапраўдны бандыт.

К л а д а м і р а. Трэба неадкладна паведаміць у паліцыю. Яны схопяць яго. О пракляты бандыт, ты паплоцішся за ўсё!.. Яго шукаюць?

Б а н і т э. Шукай ветру ў полі!

К л а д а м і р а. А ў мяне ёсць верныя сябры. Яны памогуць. Яны знойдуць гэтага нягодніка. Не падай духам, дзядзя!

Б а н і т э. Генерал? Ха-ха! Генерал — старая галоша, дзяўчынка. У яго ўжо дзесяць год устаўленыя зубы...

К л а д а м і р а. Не толькі генерал. І я буду змагацца. Я не дазволю, каб усялякая нечысць здзекавалася над маім лёсам! Я хачу жыць. *(Ідзе.)*

Б а н і т э *(адзін)*. Без звонкіх манет яна не патрэбна ні прыгажуну Рыкарда, ні старому папугаю генералу, ні чорту, ні нячысціку... *(Уключае радыё. Чутна музыка.)* Някаму весела. Ну што ж, мой дарагі пісьменнік, мы яшчэ сустрэнемся...

Музыка змаўкае.

Г о л а с д ы к т а р а. Увага! Гаворыць Гавана. Перадаем урадавае паведамленне. Група мяцежнікаў пад кіраўніцтвам дзяржаўнага злачынцы Фідэля Кастра акружана гераічнымі войскамі генерала Радрыгеса і цалкам знішчана. У Сант'яга-дэ-Куба і правінцыі Арыентэ асаднае становішча знята і ўстаноўлены поўны парадак і спакой. Мы перадавалі ўрадавае паведамленне.

Б а н і т э. Усё зразумела. Мяцежнікі знішчаны, а мой цукар гарыць... Брэшуць паны палітыкі.

Уваходзіць г е н е р а л.

Р а д р ы г е с. Вось бессаромнік Банітэ, забраў усе віскі і агаліў наш фланг.

Б а н і т э. Хочаце «Бакардзі», генерал?

Р а д р ы г е с. Не адмоўлюся.

Б а н і т э. Бярыце. *(Падае шклянку.)* Ваша здароўе. *(П'е.)* Вас можна павіншаваць, генерал?

Р а д р ы г е с *(насцярожана)*. Вы пра што?

Б а н і т э. Пра банду праклятага Кастра. Добра вы іх пакалашмацілі!

Р а д р ы г е с. А! Гэта была бліскучая аперацыя. Кажу без залішняй сціпласці. Мы ўзялі яго ў абцугі і загналі ў балота. Хто збярогся ад кулі, той патануў. Мяцежнікаў на Кубе больш няма.

Б а н і т э. Вы казачнік, генерал! Тут і без Кастра хапае натхняльнікаў. Пракляты востраў! У вас ружовыя акуляры.

Р а д р ы г е с. Без панікі, сеньёр Ігнасіа... Я ведаў вас мужчынам. Цяпер мы моцныя, як ніколі. Заўтра прыходзіць транспарт з дадатковым узбраеннем і танкамі... У мяне надзейныя хлопцы.

Уваходзіць Б р о г а р.

Б р о г а р. Каму весела, той смяецца... Я смяюся. І не трэба бычыцца. Прадайце зямлю, Банітэ.

Б а н і т э. Вам?

Б р о г а р. «Юнайтэд фрут». Кампанія не будзе скупіцца. Зробіце бізнес.

Б а н і т э. А вы не баіцёся, што кампанія лопне?

Б р о г а р. Кампанія — не дробны гандляр.



Б а н і т э. Калі гарыць зямля, агонь не разбірае, дзе дробны гандляр, а дзе кампанія.

Р а д р ы г е с. Вы не давяраеце нам. Гэта дрэнна.

Б а н і т э. Чаму? Я заўсёды гаварыў: вы смелы, цудоўны чалавек, генерал. Пакуль вы тут, мы можам спаць спакойна.

Б р о г а р. Што з вамі, Банітэ? У вас трымцяць губы...

Б а н і т э. Глупства. Проста моцнае віскі. Які сабака робіць такое моцнае віскі?

Р а д р ы г е с. Дзе жанчыны, містэр Брогар? Яны не пакрыўдзяцца?

Б р о г а р. З імі Рыкарда. Ён вельмі энергічны малады чалавек. У яго надзвычай добра падвешаны язык.

Р а д р ы г е с. Вы перабольшваеце яго вартасці. Кладаміра самастойная дзяўчына, і гэтыя фокусы з тэатрам Эрэйра хутчэй за ўсё не будуць мець у яе поспеху. Ей цяжка ўскружыць галаву.

Б р о г а р. Вы аддаяце яе за Рыкарда, Банітэ?

Б а н і т э. Я не распараджаюся ёю. Яна дарослы чалавек.

Р а д р ы г е с. Правільна. Кладаміра выбера таго, хто найбольш да спадобы ёй... Яна — упрыгожанне Сант'яга.

Б а н і т э. Вы, генерал, ідзяце па-за конкурсам. У вас вялікія заслугі перад радзімай. Вам скідка. Па зніжанаму прэйскуранту.

Р а д р ы г е с. Без залішняй сціпласці, яна прывыкла да мяне.

Б р о г а р. А я б на вашым месцы не спадзяваўся, генерал. Ваш час прайшоў. Такой жамчужыне трэба прыгожая аздоба.

Уваходзіць Р ы к а р д а.

Р ы к а р д а. Генерал, толькі што званіў Расенда. Фідэль Кастра з частккай сваіх людзей прайшоў у напрамку гор С'ера-Маэстра.

Б р о г а р. Што? Але ж урад паведаміў, што Кастра знішчаны. У чым справа, генерал?

Р а д р ы г е с. А што мы маглі зрабіць? Яны прасачыліся, як вада скрозь пальцы. Але іх асталося ўсяго некалькі чалавек.

Б а н і т э. Генерал бачыў, як Кастра хапаў ротам балотную твань... Вы чуеце, генерал, ён тануў знарок, каб ашукаць вас. Цяпер я ведаю, куды пайшоў Антоніа Камача.

Р ы к а р д а. Цяпер могуць пачацца непрыемнасці... Атрад Кастра будзе расці. Сярод сялян незадавальненне... Трэба спыніць гэта.

Б р о г а р. У першую чаргу трэба ліквідаваць самога Кастра.

Р ы к а р д а. Кастра атрымаў такую траўму, што, магчыма, не апомніцца.

Б а н і т э. Як гэта зразумець?

Р ы к а р д а. Сёння прыйшло сенсацыйнае паведамленне: жонка афіцыйна пакінула Кастра і разам з сынам паехала ў Злучаныя Штаты. Больш таго, дзеянні Кастра яна сурова асудзіла і выйшла замуж за другога. Цяпер яна з сынам і новым мужам знаходзіцца ў Фларыдзе. А паводле неафіцыйных даных жонка Антоніа Камача таксама паехала ў Штаты.

Б р о г а р. Я ўсё-такі настойваю на тым, што трэба ліквідаваць Кастра.

Б а н і т э. Гэты нячысцік пасеяў усюды мару пра нейкую свабоду, пра ўласную зямлю. А што мы супрацьстаўляем баламутным марам гэтага чалавека? Недарэк-слюнцяеў, якія толькі ведаюць, як юраваць ды транжырыць грошы, а для прывабнай ідэі ў іх не варыць мазгаўня. Нам патрэбны разумныя людзі, якія ўмеюць таленавіта ўводзіць у зман.

Б р о г а р. Брава, Банітэ. З вас выйшаў бы цудоўны дэпутат.

Р ы к а р д а. Дык вось, сеньёры, я падрыхтаваў адозву да насельніцтва правінцыі — ніякай падтрымкі мяцежнікам. Яе павінны падпісаць уплывовыя людзі. Трэба супакоіць насельніцтва...

Б а н і т э. Лухта. Трэба заганяць у стойла гэтых бандытаў, а не карміць іх адозвамі! Патрэбен бізун!

Р ы к а р д а. Я званіў многім... Вагаюцца... Ці, дакладней, баяцца Кастра. Мне здаецца, трэба пачынаць з гаспадыні дома. Калі паважаная ўсімі паэтэса Расарыа Эрнандас паставіць свой подпіс, гэта будзе прыкладам для другіх.

Р а д р ы г е с. Правільна, сеньёр Масфарэра. Кастра будзе знішчаны. Заўтра, як толькі прыйдзе транспарт з танкамі, я накірую іх у С'ера...

Уваходзіць Р а с а р ы а.

Р а с а р ы а. Вось дзе вы, сеньёры! Толькі што званіў епіскап Карылье. Да нас, у Сант'яга, выехаў свяшчэннік Веласка з Дамініканскай рэспублікі. Асабісты друг генералісімуса Трухільо і госць нашага прэзідэнта...

Б а н і т э. Што яму трэба? Адпускаць грахі? Я сумняваюся, каб гэты поп здолеў патушыць пажар.

Р ы к а р д а. Веласка паможа зацугліць непакорных. У яго вопыт. Гэта добра прыдумана, тут многа веруючых. Акрамя таго, мы вельмі разлічваем на дапамогу сеньёры Расарыа. Не здзіўляйцеся, сеньёра. Так, так, на вашу дапамогу.

Р а с а р ы а. Пра што вы, сеньёр Рыкарда?

Р ы к а р д а. Вы павінны падпісацца пад адозвай.

Р а с а р ы а. Што за адозва?

Р а д р ы г е с. Гэта адозва знатных людзей правінцыі Арыентэ да насельніцтва з заклікам захоўваць спакой, з асуджэннем злачынных дзеянняў фідэлістаў. І мы, сеньёра, звяртаемся да вас з просьбай падпісаць яе. Калі яна будзе падпісана сеньёрай Расарыа Эрнандэс, любімай паэтэсай кубінскага народа, дык яе падпішуць і іншыя. І ваш голас знойдзе водгук у сэрцах простых людзей.

Р а с а р ы а. Даволі, сеньёр Радрыгес. Палітыка — гэта не мая сфера. Я не магу і не хачу ўмешвацца ў палітыку.

Р а д р ы г е с. Няўжо вы адмовіцеся падпісаць, дарагая сеньёра? Няўжо вас не турбуе лёс нашай радзімы?

Р а с а р ы а. Больш за ўсё на свеце я люблю сваю радзіму, але мне ніхто не даручаў клопатаў пра яе лёс. Што магу зрабіць я, слабая жанчына?

Б р о г а р. Хто не асуджае вінаватых, той міжволі робіцца іх памагатым.

Р а с а р ы а. Апамятайцеся, містэр Брогар! Я не належу ні да якога лагера, ні да якой партыі. Я служу мастацтву і хачу людзям дабра. Той, хто ідзе за палітыкай, — гвалтаўнік, а гвалтаўнік — вораг чалавецтва.

Б р о г а р. Калі вы жадаеце дабра людзям і ненавідзіце гвалтаўніцтва, дык і павінны падпісаць гэтую адозву. І вы гэта зробіце, калі не жадаеце, каб уладу захапілі дзікуны-барадачы.

Р а с а р ы а. Мяне не цікавіць, у каго ўлада. Усе, хто ўладарыць — узурпатары. Адны рознымі інтрыгамі і махінацыямі, другія — ад імя народа пралазяць да ўлады, але, калі дасягнуць мэты, пра народ забываюць. Ні адзін уладар не любіць народ. Яны толькі гандлююць імем народа. Яны крывёю і горам людзей пракладваюць дарогу да ўлады, да ўласнай велічы. Хто па-сапраўднаму любіць народ, той не паўстане перад ім уладаром. Рукі паноў у крыві. І даволі пра гэта. Я прапаную вам перайсці ў залу і забыць пра палітыку. Кладаміра нам праспявае, сеньёры.

Уваходзіць М е р с а д э с.

М е р с а д э с. Добры дзень, сеньёры! Вы здзіўлены? Гавана ўсім кланяецца...

Р а д р ы г е с. О, сеньёра Мерсадэс!

Р а с а р ы а. Ну, як Гавана? Што чуваць? Якія навіны?

М е р с а д э с. Усюды — забавы. У гэтым годзе цудоўны сезон. Колькі знакамітых людзей! А што тут у вас, сеньёры? Па дарозе сюды маю машыну два разы спынялі нейкія абарванцы і тры разы салдаты. Генерал, гэта па вашаму загаду салдаты робяць вобыскі ў жанчын?

Б а н і т э. Вы самі вінаватыя, Мерсадэс. Прыгожая жанчына, і ўсё такое. Генерал, пацвердзіце, што на ўсёй Кубе — спакой. Вобыск — сродак пазнаёміцца з прыгожай жанчынай.

Р а с а р ы а. Шчаслівыя гаванцы! У іх нібыта другі свет. Іншае жыццё. А мы? Жах!

М е р с а д э с. А якія моды цяпер! Бачыце?

Б а н і т э. Жанчыны пачынаюць разумець ісціну каменнага веку.

Б р о г а р. Няблага.

Б а н і т э. Хадзіць амаль голай, мусіць, вельмі прыемна. Але гэтым нікога не здзівіш, хіба толькі саплівых хлапчукоў.

Р а с а р ы а. Ігнасія, памаўчы! Твае жарцікі...

Р ы к а р д а *(Мерсадэс)*. Як вы ацэньваеце падзеі ў Арыентэ, сеньёра?

М е р с а д э с. Усе абураны!

Р ы к а р д а. А вы?

М е р с а д э с. Я не ацэньваю, ацэньвае мой муж. Я вырашаю дробныя праблемы, вялікія — ён. Напрыклад, купіць вілу або набыць кадзілак, купіць новы дом, акцыі і да таго падобнае — вырашаю я, а такія значныя пытанні, як тое, справядлівая ці не Англія перад Егіптам, хто быў больш раўнівы — Рузвельт ці Эйзенхауэр, вырашае муж.

Б а н і т э. Альберта прыехаў з вамі?

М е р с а д э с. Не. Я — адна. У яго справы ў Гаване. А мне надакучыла там...

Б р о г а р. З такой знешнасцю? Вы, мабыць, вельмі прыстойная жанчына.

М е р с а д э с. Вядома. У мяне строгі муж.

Р а с а р ы а. Пяройдзем у залу, сеньёры, вып'ем за прыезд нашай госці.

Усе ўстаюць. Астаюцца Б а н і т э і Б р о г а р.

Б р о г а р. Яна сапраўды верная мужу?

Б а н і т э шматзначна глядзіць на Брогара.

Я хачу ведаць напэўна.

Б а н і т э. Сеньёра любіць прыгожыя рэчы...

Б р о г а р. Вы малайчына, стары.

Б а н і т э. Дзейнічайце!

Б р о г а р. У мяне пачынае паяўляцца густ да тутэйшага жыцця! Чорт вазьмі, у гэтай бярлозе не так ужо і блага.

Б а н і т э. У гэтай бярлозе пакуль што халадок. Але можа быць горача...

Выходзяць. Паўляецца К л а д а м і р а.

К л а д а м і р а *(адна)*. Жабрачка... Што рабіць? І ўсё праз нейкага

нягодніка Антоніа Камача... Мне б сустрэць цябе, праклятага падлюгу, я сама б высмаліла табе вочы! *(Сядае.)*

Уваходзіць Радрыгес.

Радрыгес. Я шукаў вас, Кладаміра. Хто вас пакрыўдзіў?

Кладаміра. Мяне? Вы жартуеце, генерал. Мяне можа пакрыўдзіць толькі ягуар, і то, калі ў яго не ўстаўныя сківіцы.

Радрыгес. Вы напускаеце на сябе зухаватасць. Вы маленькая, храбрая дзяўчынка. Калі вы спявалі, у вас на вачах былі слёзы... Я бачыў, мілая.

Кладаміра. Чаго вы дамагаецеся, генерал?

Радрыгес. Вы мне дарагія, Кладаміра. Я не ўяўляю сабе жыцця без вас...

Кладаміра. Не гаварыце так напышліва.

Радрыгес. Сцеражыцеся падману. Маладыя людзі часта захапляюцца, а потым пакутуюць...

Кладаміра. Ідзіце, генерал. Мне надакучылі натацыі.

Радрыгес. Я дарую вам грубасць. І не прашу вас адказваць неадкладна. Я пачакаю.

Кладаміра. За вас замуж? Мне смешна, генерал. Вы трошкі спазніліся... Так, спазніліся...

Радрыгес. І ўсё ж я прашу вас падумаць. Не кажыце «не». Богам прашу, не спяшайцеся.

Кладаміра. Добра. А цяпер ідзіце.

Генерал, пацiснуўшы плячыма, ідзе. Уваходзіць Рыкарда.

Рыкарда. Ён абдымаў цябе?

Кладаміра. Абдымаў. Ён гарачы мужчына.

Рыкарда. Ты знарок злуеш мяне?

Кладаміра. А ты знарок робіш мне допыт?

Рыкарда. Даруй... Я кахаю цябе. Я павязу цябе ў Гавану. Ты будзеш спяваць. Ты будзеш самай знакамітай жанчынай Кубы. Я хачу гэтага.

Кладаміра. Санта Марыя, няўжо гэта магчыма? Няўжо спраўдзяцца мае мары і мне давядзецца спяваць у сапраўдным тэатры? Няўжо я стану сапраўднай артысткай, як Расіта Кінтана?

Рыкарда *(усміхаючыся)*. Будзеш, мая любая, будзеш, і я буду ганарыцца табою.

Кладаміра. Калі мы паедзем у Гавану? Калі мы ўбачым Эрэйра?

Рыкарда. Калі я скончу свае справы тут. Я павінен знайсці гэтага Антоніа Камача... І ты мне паможаш...

Кладаміра. Я?!

Рыкарда. Так, ты! Няўжо адмовішся?

Кладаміра. Маўчы, Рыкарда! Не забывай, што я дачка Умберта і Расарыа Эрнандас, а Антоніа Камача...

Рыкарда. Пісьменнік. І таму ён спаліў склады твайго дзядзькі, а яго самога хоча зрабіць упрыгожаннем вулічнага слупа? Галава Камача ацэнена ў дваццаць пяць тысяч песа. Чуеш? Дваццаць пяць тысяч песа. Мы пакладзем гэтыя грошы ў банк на працэнты на тваё імя.

Кладаміра. Давай уцячом з дому?

Рыкарда. Але цяпер ноч...

Кладаміра. Ну і няхай. Я пакажу табе Сант'яга ноччу... Хочаш?

Рыкарда. Вельмі.

Кладаміра. Пацалуй мяне.

Рыкарда цалуе.



Мацней.

Рыкарда. Нехта ідзе сюды.

Кладаміра. Давай схаваемся.

Рыкарда. Хадзем.

Ідуць у суседні пакой. Уваходзяць Мерсадэс і Брогар.

Мерсадэс. Куды вы мяне цягнеце, дзёрзкі мужчына? Я п'яная і нічога не цямлю...

Брогар. Тут вам будзе лепш. Праўда?

Мерсадэс. Праўда! О-о! Вы хітры! Я вам не веру... Вы любіце танцы? Хочаце, я станцую вам? Чача... Не, не буду танцаваць... Я люблю музыку, танцы, забавы... Жыццё — свята. Я люблю вясёлыя святы. А вы?

Брогар. Вельмі. Дазвольце вам даць у падарунак адну дробязь. Вам падабаецца? *(Дае ёй калье.)*

Мерсадэс. О! Хіба могуць такія рэчы не падабацца жанчыне? Вы жартаўнік, сеньёр... Гэтая дробязь каштуе мінімум пяць тысяч...

Брогар. Глупства. Дзеля вас я магу быць добры.

Мерсадэс. Дзякуй... Яно вельмі будзе пасаваць да майго вячэрняга плацця.

Брогар. Я таксама так думаю. *(Абдымае яе.)*

Мерсадэс. Вар'ят! Нас убачаць!

Брогар. Глупства... Вы такая прыгожая ў гэтым плацці. Хадзем да вас?

Мерсадэс. Гэта заўважаць. Вы вельмі нецярплівы.

Брогар. Я не люблю чакаць. *(Цалуе яе.)*

Чуваць нечыя крокі. Мерсадэс знікае. Уваходзіць Банітэ.

Банітэ. У вас разгублены твар. Чаму?

Брогар. Вы кінулі б піць. Шкодна.

Уваходзіць Расарыа.

Расарыа. Зноў вы схаваліся? Генерал вельмі пакрыўдзіўся на цябе.

Банітэ. Чорт з ім, з генералам. Яму даюць ордэны, а ў сумленных людзей гараць склады. У правінцыі Арыентэ спакой... Я не здзіўлюся, калі аднойчы ўбачу гэтага генерала на вяроўцы... У спакойных месцах гэта часта бывае. Калі войскам камандуюць дурні...

Брогар. Яму даўно пара спаць. Ён пачынае малоць лухту... Заткніцеся, Банітэ!

Банітэ. Правільна, містэр... Я п'яны. Гэта мой сродак, каб не звар'яцець.

Расарыа. Памаўчы, Ігнасіа...

Банітэ. Добра, сястра.

Чуецца выбух. Потым стрэлы. Уваходзяць перапалоханыя Кладаміра і Мерсадэс, а потым Радрыгес і Рыкарда.

Мерсадэс. Што гэта такое, генерал? Ратуй нас, святая дзева Эль-Кобрэ!

Банітэ. Не святыя дзевы, а танкі, гарматы, кулі і моцная рука — нашы выратавальнікі... Але, на жаль, наш лёс у руках бязвольных ідыётаў.

Званок. Банітэ бярэ трубку і слухае, потым трубку перадае Радрыгесу.

Вас просяць генерал.

Расарыа *(Мерсадэс)*. Што гэта ў цябе за калье? *(Разглядвае.)* Майстэрская работа. Адкуль?

Мерсадэс *(няўважліва)*. Муж купіў.

Б а н і т э. Твой муж дурань, Мерсадэс. Ты даруй. Такое калье купляць жонцы... Дурань.

Р а д р ы г е с кладзе трубку і няўпэўнена-звонкім голасам звяртаецца да прысутных.

Р а д р ы г е с. Банды Франка Пайса зрабілі чарговы напад на склады зброі і боепрыпасаў казармы Манкада. А група Антоніа Камача ўзарвала транспарт са зброяй і танкамі. Успыхнуў пажар. Гарыць порт. *(Спяшаючыся, выходзіць.)*

Р ы к а р д а. Шакалы! *(Хоча пайсці.)*

К л а д а м і р а. Ты куды, Рыкарда? І я з табой.

Р ы к а р д а. Хадзем.

М е р с а д э с *(Брогару)*. Мусіць, цікавае відовішча — пажар?

Б р о г а р. Паедзем на маёй машыне. У мяне «кадзілак».

Разыходзяцца. Б а н і т э адзін.

Б а н і т э. Мы яшчэ сустрэнемся з табой, Антоніа... Я спадзяюся, ты не будзеш крыўдаваць, калі я пушчу табе кулю ў лоб?

З а с л о н а.

## Карціна другая

Перакрыжаванне дарог недзе на ўскраіне. У далечыні агні Сант'яга.

Х а к о б а. Нібы ў кіно. Глядзі, глядзі, як гарыць, праклятае.

Л і к а. Відаць, страх скаваў увесь горад, зусім няма ніякага руху.

Х а к о б а. На прычале ляжалі скрыні з нечым. Дарэмна мы іх не ўзялі. У гаспадарцы ўсяму можна знайсці месца.

Л і к а. Ты анучнік, Хакоба!

Х а к о б а. А ты бездар і бадзяга.

Паяўляецца А н т о н і а.

А н т о н і а. Даволі балбатні. Тут пасля выбуху будзе аблава. Трэба абавязкова перахапіць якую-небудзь машыну.

Фары аўтамабіля.

Л і к а. Ёсць. *(Адбягае.)*

Х а к о б а. Мусіць, у іх дарагія цыгары. Трэба ўзяць пабольш.

А н т о н і а. Хакоба, у цябе ў жылах кроў хціўца. Не забывай, мы не бандыты.

Л і к а і Г і л ь е р м а прыводзяць арыштаваных Кладаміру, Мерсадэс, Брогара і Рыкарда.

Б р о г а р. Як вы смееце? Я грамадзянін Злучаных Штатаў!

А н т о н і а. Ціха, пан паўночны сусед. Не крычыце. Нервы — дэфіцытная рэч, беражыце іх.

Б р о г а р. Чорт ведае што! Хто вам даў права адбіраць машыну?

А н т о н і а. Рэвалюцыя.

Б р о г а р. Пракляты востраў, няма спакою ні днём, ні ноччу.

М е р с а д э с. Можа, яны адпусцяць нас за грошы? Адкупіцеся, містэр Брогар!

Л і к а. Мы не рабаўнікі!

Г і л ь е р м а. Мы самі змагаемся з рабаўнікамі.

К л а д а м і р а. Не думала я, што малойчыкі Антоніа Камача крыўдзяць невіноўных людзей.

А н т о н і а з цікаўнасцю глядзіць на Кладаміру.



А н т о н і а. Вы, здаецца...

К л а д а м і р а. Так, я — Кладаміра Эрнандас.

А н т о н і а *(здзіўлена)*. Вы дачка майго настаўніка, прафесара права? Я думаў, вы толькі пляменніца старога кракадзіла Банітэ. Я вас часта бачыў, але, на жаль, не пазнаёміўся з вамі. Вы заўсёды смяяліся і спявалі...

К л а д а м і р а. А вы... вы Антоніа Камача? Толькі не маніце.

А н т о н і а *(усміхаючыся)*. Так, я Камача.

К л а д а м і р а. Вось вы які, Камача!.. Я павінна быць вам вельмі ўдзячная, вельмі...

Чуецца шум машыны, якая хутка набліжаецца.

Л і к а. Яшчэ машына.

Г і л ь е р м а і Л і к а адыходзяць.

Р ы к а р д а *(Брогару)*. Яго трэба ўзяць...

Б р о г а р. Вы звар'яцелі... Возьмеце потым. Беражыце сваю скуру. Маўчыце і дзякуйце дзяўчыне. Здаецца, выручыла.

Р ы к а р д а. Што ж рабіць? Неразумна не скарыстаць такую магчымасць.

Б р о г а р. Вы звар'яцелі! Адзін рух, і я выдам вас. Не хапала, каб праз ваш розум... Галава ў мяне адна, сеньёр контрразведчык... Маліце бога, што гэты ведае прафесара права.

К л а д а м і р а *(Антоніа)*. Можа, вы нас адпусціце?

Паяўляецца Л і к а.

Л і к а. Ёсць шыкоўны «пакард», Антоніа, а ў дадатак поп, толькі ён чамусьці ўпэўнены, што машына — яго ўласнасць. Але Гільерма яго пераконвае.

А н т о н і а *(Кладаміры)*. Можаце быць свабодныя. Хакоба, адпусціце іх.

Усе разыходзяцца — п а р т ы з а н ы ў адзін бок, астатнія — у другі.

Х а к о б а *(Мерсадэс, якая ледзь адстала)*. Пачакай, галубка.

М е р с а д э с. Я з імі... Я слабая жанчына. Я нікому шкоды не раблю.

Х а к о б а. Пасля будзеш хныкаць. *(Паказвае на калье.)* Што гэта за штука? Здымай. П'яце народную кроў, паразіты!

М е р с а д э с. Калі ласка, я не супраць... Калі вам падабаецца, вазьміце, калі ласка, я буду рада...

Х а к о б а. Цяпер ідзі, даганяй кампанію.

П а р т ы з а н ы прыводзяць свяшчэнніка В е л а с к а.

В е л а с к а. Нягоднікі! Вы гангстэры... Так, бандыты.

Паяўляецца А н т о н і а.

А н т о н і а. Вы нечым незадаволены, святы айцец?

В е л а с к а. Вы яшчэ пытаеце? Калі вы кранеце мяне або маю машыну, я пракляну вас! Бог вам не даруе.

А н т о н і а. Нам трэба толькі ваша машына.

В е л а с к а. Я не кубінец, я дамініканец, я духоўны айцец. І вы не маеце права чапаць маю ўласнасць.

Л і к а. Наконт уласнасці — у вас прабелы ў ведах. Вы маеце патрэбу ў выхаванні, святы айцец.

В е л а с к а. Як вы можаце? Я свяшчэннік Веласка з Трухільё. Я прыехаў сюды з місіяй, якая пажаданая богу, а вы...

А н т о н і а *(у роздуме)*. Свяшчэннік Веласка... З Сюдад-Трухільё...

В е л а с к а. Так. Я прыехаў з Дамініканскай рэспублікі да вас, братоў адной веры і крыві, каб уберагчы вас ад граха, раскрыць вам вочы і скі-

раваць на дарогу ісціны. Выслухайце мае словы! Я выступаю ад імя каталіцкай царквы. Да маіх слоў далучаюцца вернючыя ад Чылі да Пуэрта-Рыка. Маімі вуснамі гаворыць не толькі ўся Лацінская Амерыка, але і сам Ватыкан!

Гільерма. Малайчына, падрэ, добра спяваеш, але твая пласцінка не для нас.

Веласка. Папярэджваю, чуеце, вы? Ваш духоўны айцец папярэджвае — кідайце зброю і вяртайцеся да сем'яў. Не слухайце Кастра. Ён падкуплены сатаной!

Антоніа (*наставіўшы пісталет*). Хопіць. Прашу ісці за намі.

Пад пагрозай зброі Антоніа вядзе Веласка, чые словы цяпер чутны здалёк «Карамба! Сакрамэнта! Гангстэры!»

Ад'язджае машына.

Заслона.

## Карціна трэцяя

Партызанскі лагер. Паяўляецца Каміла.

Каміла. Гарсіа Педра!

Гарсіа (*паказваецца*). Я тут!

Каміла. Зараз жа бяжы да...

Гарсіа. Бягу.

Каміла. Стой!

Гарсіа. Стаю.

Каміла. Куды бяжыш?

Гарсіа. Не ведаю, Каміла.

Каміла. Трэба думаць.

Гарсіа. Трэба думаць, Каміла.

Каміла. Ты выканаў заданне? Фідэль праз паўгадзіны будзе тут. Я пытаюся, выканаў ты заданне ці не?

Гарсіа. Так.

Каміла. Дзе твой узвод?

Гарсіа. Усе тут.

Каміла. Усе? Без выключэння?

Гарсіа. Акрамя Ліка і Хакоба.

Каміла. Яны ведаюць, што таксама павінны быць тут?

Гарсіа. Яны яшчэ не былі ў мяне.

Каміла. А ты быў у іх?

Гарсіа. Не.

Каміла. А як жа яны павінны даведацца?

Гарсіа. Правільна. Мудрэц сказаў: калі маленькі чалавек не стане на пальчыкі, а высокі не сагнецца, дык пацалунка не будзе. Зараз я ім скажу.

Каміла. Дзе яны?

Гарсіа. На пасту.

Каміла. Там іх няма!

Гарсіа (*здзіўлена*). Як? (*Глядзіць у бінокль. Можна здагадацца, што ён нікога не ўбачыў, і , разявіўшы рот, цяпер глядзіць на Каміла.*)

Каміла. Чаго ты разявіў рот і глядзіш на мяне?

Гарсіа. Правільна. Мудрэц сказаў: лепш расплюшчыць вочы, чым разявіць рот.

Каміла. Дык адкрый вочы. (*Глядзіць у бінокль.*) Ты не бачыш, дзе знаходзяцца і што робяць твае хлопцы?



Гарсіа. Катаюцца на лодцы.

Каміла. Катаюцца?

Гарсіа (*зноў глядзіць у бінокль*). Яны падплылі да берага і...

Каміла. На беразе два чалавекі са зброяй у руках. Цікава, хто яны?

Гарсіа. Такія маленькія людзі...

Каміла. Нават меншыя за вінтоўку. Дык гэта ж дзеці!

Гарсіа. Пасадзілі іх у лодку і выкіравалі да берага.

Каміла. Калі вернуцца, паведамі.

Яны разыходзяцца. Зацямненне. Паяўляюцца Ліка і Хакоба, за імі ідзе 11-гадовы Педра і 13-гадовы Алонса, якія пад цяжарам вінтовак ледзь перастаўляюць ногі.

Хакоба. Давайце зброю і адпачніце.

Педра. Алонса, не давай. Яны потым не аддадуць.

Алонса. І ты не давай, Педра. Яны падманяць.

Хакоба. Зараз жа аддайце зброю, а то...

Хакоба ўскідвае вінтоўку. Педра і Алонса, учапіўшыся ў свае стрэльбы, туляцца адзін да аднаго.

Алонса. Страляйце, стрэльбы мы вам усё адно не аддадзім.

Педра (*плача*). Не дадзім.

Алонса. Карамба! Зманілі, што вы партызаны. Што вам трэба ад нас, бандыты?

Хакоба. Так, мы бандыты.

Педра (*трывожна*). Алонса!.. (*Плача.*)

Алонса. Не бойся... (*Плача.*) Педра...

Хакоба. Наш начальнік Фідэль Кастра — таксама бандыт. Хіба вы не чулі пра гэта па радыё з Гаваны?

Алонса. З Гаваны гаворыць Батыста, а з С'ера-Маэстра — Кастра.

Педра. Мама сказала, што калі гаворыць Кастра, у яго з рота мёд цячэ.

Алонса. Бацька гаварыў, што Фідэль змагаецца за нас. Калі Фідэль спусціцца з гор і ўступіць у Гавану, тады ўсе будуць мець зямлю, работу і ежу.

Педра. А мы будзем хадзіць у школу і станем такімі, як Фідэль.

Ліка і Хакоба ўсміхаюцца. Педра і Алонса павесялелі.

Ліка. Хакоба, убачыўшы іх, Фідэль і Антоніа будуць рады. Яны нагадаюць ім дзяцей.

Хакоба. Фідэліта і Аўгуста...

Алонса. Фідэліта...

Педра. Аўгуста...

Алонса. Фідэліта цяпер з маці ў янкі.

Педра. Аўгуста... І ён у янкі разам з маці.

Ліка. Адкуль вы ведаеце?

Алонса. Так перадавала гаванскае радыё... Праўда, Педра?

Педра. Праўда, Алонса!

Паяўляецца Гарсіа. Ён раззлаваны.

Гарсіа. Дзе бадзяліся?

Ліка (*паказваючы на дзяцей*). Праз іх спазніліся.

Гарсіа. Хто яны?

Алонса. Мы партызаны!

Педра. Партызаны.
Ліка (*паказваючы на Гарсіа*). Вось наш начальнік.
Алонса (*прыглядаючыся*). Не, мы хочам другога.
Педра. Другога хочам.

Паяўляецца Каміла.

Каміла. Гэта што за мітынг?
Хакоба (*паказваючы на дзяцей*). Новыя сілы ідуць у лагер.
Гарсіа (*паказваючы на Каміла*). А гэта яшчэ большы начальнік.
Алонса (*прыглядаючыся*). Не. Нам трэба другі.
Педра. Трэба другі...
Каміла. Сеньёры, можа вам трэба сам Фідэль?
Алонса. Ага, мы хочам бачыць Фідэля.
Каміла. Хто вас навучыў?
Алонса. Ніхто.

Паяўляецца Антоніа.

Антоніа. Чые гэта дзеці? Як яны сюды трапілі?
Алонса (*у захапленні*). Камача!
Педра. Камача!
Каміла (*знарок*). Гэта не Камача.
Алонса. Не! Ён Камача... Антоніа Камача.
Педра. Антоніа Камача.

Алонса і Педра становяцца «смірна».

Антоніа. Адкуль вы ведаеце, што я Антоніа Камача?
Алонса. Падобны.
Педра. Падобны.
Гарсіа. Мудрэц сказаў: папа пазнаюць і ў лахманах.
Антоніа (*партызанам*). Адкуль тут гэтыя дзеці?
Ліка. Гэта браты. Урадавыя войскі спалілі іх вёску.
Хакоба. Бацькі загінулі, а дзеці...
Педра. Забралі вінтоўкі ад мёртвых салдат і пайшлі ў партызаны.
Алонса. Камача, мы разам з табой будзем ваяваць!
Антоніа. Як завуць цябе?
Алонса. Фідэліта.
Антоніа. А цябе?
Педра. Аўгуста.
Антоніа. Кажыце праўду.
Педра. Алонса, мы ж праўду кажам?
Алонса. Так, Педра!

Антоніа і партызаны смяюцца.

Антоніа. Хадземце са мной, будзеце маімі памочнікамі. (*Абдымае іх і ідзе разам з імі.*)
Гарсіа. Веласка рому хоча, ды яшчэ маркі «Бакардзі».
Каміла. Хутка атрымае!
Гарсіа. Адкуль?
Каміла. Гэтымі днямі ўбачыцца са сваімі, і, напэўна, яны яго добра пачастуюць.
Гарсіа. Хіба мы яго вызваляем?
Каміла. Не... Бо Веласка пад пагрозай смерці напісаў пісьмо і сказаў прамову, у якой выказаў нянавісць да сваіх так званых аднадумцаў і папоў. Гэту прамову мы запісалі на плёнку і два разы на дзень перадаем у эфір. А фатакопіі яго пісьма разасланы ў рэдакцыі газет, у тым ліку і ў Дамініканскую рэспубліку. Няхай цешыцца генералісімус Трухільо геройствам свайго адданага слугі. Паводле слоў Веласка, гэтымі днямі генерал Радрыгес пачынае наступленне. Мы, Гарсіа, павінны бачыць самога Радрыгеса.
Гарсіа. Генерала Радрыгеса?
Каміла. Так, генерала Хуана Радрыгеса. Разам з Веласка.
Гарсіа. Разам з Веласка?
Каміла. Так, разам з Веласка.

Гарсіа збянтэжаны. Каміла смяецца. Падыходзіць Антоніа.

Антоніа (*да Ліка і Хакоба*). Ну, як пакаталіся?
Ліка. Цудоўна. Мне было горача, і я палез у ваду. Вада — абдымкі каханай жанчыны, Антоніа.
Антоніа. У вас няма пільнасці. Мы перадавы атрад, за намі свабодная Куба. Вы хоць гэта разумееце?
Хакоба. Гэта ён прыдумаў. Я адгаворваў яго. Я не вінаваты.
Ліка. Так, я катаўся на лодцы. Дакладней, катаўся мой гарнітур.
Каміла. Кажы больш зразумела, калі пачаў.
Ліка. Мне здаўся падазроным той бераг. Тады я набіў свой гарнітур травой, і ён паехаў катацца на лодцы, а я — пад лодкай. Я заўважыў на тым беразе людзей. Па-мойму, гэта былі варожыя разведчыкі.
Каміла. Чаго ж ты маўчаў?
Ліка. Іх ужо, напэўна, узялі. Я паведаміў Марцінесу на трэці пост. А на дарозе забралі гэтых хлопчыкаў. Фідэліта і Аўгуста.
Хакоба (*паказвае на Ліка*). Гэта ён узяў іх. Патрэбны былі яны... Навошта?
Ліка. А гэту калоду больш не пасылайце са мной. Я люблю гаваркіх людзей. Каб можна было пра жыццё пагаварыць, а гэты маўчыць ці гаворыць толькі пра сваю гаспадарку. А мне пляваць на гаспадарку.
Каміла. Чаго гэта ён, Хакоба?
Хакоба. Усё прыстае — скажы ды скажы, якое будзе жыццё пасля перамогі. А я адкуль ведаю? А ён прыстае.
Ліка. Ты, Хакоба, вельмі адсталы рэвалюцыянер. Ты прыйшоў да нас, каб адваяваць сабе кавалак зямлі. Больш табе нічога не трэба?
Хакоба. Коней бы тройку. А больш нічога. Пражыву.
Антоніа. А калі табе плантатары прапануюць кавалак зямлі і тройку коней? Здрадзіш рэвалюцыі?
Хакоба. Дык не дадуць жа. Яны хцівыя, сквапныя. Таксама гаспадары. Якому гаспадару хочацца сваё аддаваць?
Ліка. Ты ідзі паспі, Хакоба, з табой брыдка гаварыць. Пасля тваіх размоў я пачынаю ненавідзець і зямлю, і коней.
Хакоба. Наогул паспаць карысней, чым мянціць языком. (*Ідзе.*)
Антоніа. Ёсць яшчэ ў нас такія, як Хакоба.
Ліка. Чорт з ім, з Хакоба. Паслухайце, якую я песню прыдумаў. (*Іграе на гітары і спявае.*)
Каміла. Дзе ты навучыўся так іграць? Твае песні бяруць за душу.
Ліка. Я быў бадзягам... Калі рабілася асабліва балюча і крыўдна за сваё нікчэмнае жыццё, я ішоў у стэп. Там няма ні шчаслівых, ні няшчасных. Там я не бачыў гора, і там я быў адзін. Я спяваў песні, якія прыдумваў сам, і мне рабілася лёгка... Вось адкуль у мяне гэта. Бадзяга — таксама чалавек. Гэта я ведаў. Але не ведалі многія з тых, хто гаварыў напышлівыя словы пра чалавечую годнасць. А я не гаварыў, я не мог гаварыць, але затое мог спяваць. Мне спяваць лягчэй...

Антоніа. А цяпер мы будзем гаварыць. Усе разам. Прыйдзе час. Гэта будзе гучаць, як трэба: гаворыць народ Кубы. Зразумеў, Ліка?.. Праспявай яшчэ што-небудзь!

Ліка спявае. Потым усе танцуюць. Падыходзяць Алонса і Педра.

Педра. А гэта што такое? *(Паказвае кальe.)*

Антоніа. Кальe. Тонкая работа. Дзе вы яго ўзялі, хлапчаняты?

Педра. У адным будане за ламаччам ляжаў кацялок, а ў ім гэта штука.

Антоніа. Прынясіце кацялок, хлапчаняты.

Педра. Зараз.

Дзеці знікаюць.

Каміла. У нашых не можа быць такой рэчы. Яна каштуе некалькі тысяч долараў. Гэта нехта ўкраў ці адабраў.

Антоніа. У паўстанца, у барацьбіта за свабоду павінны быць чыстыя рукі.

Паяўляецца Педра, прыносіць кацялок.

Педра. Вось ён... Нават зямлёй быў прысыпаны.

Ліка. Гэта мой кацялок. Але ён прапаў у мяне тры дні назад. Памойму, гэта Хакоба... Я яго пачаў падазраваць, калі мы рыхтаваліся ўзарваць транспарт. Памятаеш, Гільерма?

Антоніа. Хакоба, сюды!

Гарсіа бяжыць.

Каміла. Даручы гэта мне. Гэты падлюга не павінен жыць на свеце. Сёння ён зняў кальe, а заўтра здрадзіць рэвалюцыі.

Ліка. А я думаю, чаго гэта ён увесь час казаў: няхай хутчэй скончыцца бойка, цяпер жыць можна.

Прыводзяць Хакоба, ён бледны.

Антоніа. Гэта тваё кальe?

Хакоба. Не... Адкуль яно ў мяне? Я дробны гаспадар. У мяне не можа быць такая дарагая рэч.

Каміла. Ты рабаваў? Не аднеквайся, па вачах бачу. Ты...

Хакоба. А як яны абіралі нас? Як яны нашу кроў пілі! Я за кроў сваю, за пот узяў! Я на іх, праклятых, спіну дваццаць год гнуў. Гэта за пакуты мае... Яна сама аддала, яна зразумела, што павінна...

Антоніа. Ты зганьбіў нас... Як ты мог?

Хакоба. Можаце ўзяць сабе... Яна мне не патрэбна, гэта штука. Абыдуся без яе.

Каміла. Нам яна таксама не патрэбна. А ты, гад... хадзем...

Хакоба. Каміла... Хлопцы...

Усе адварочваюцца.

Ліка *(пахмура)*. Ідзі, ідзі, чаго там. Заслужыў. У свабоднай Кубе прайдзісветаў быць не павінна.

Каміла. Хадзем! Ну! Цябе чакае трыбунал...

Вядуць. Усе маўчаць. Цяпер ужо здалёк чуюцца словы Хакобы: «Ліка, Каміла!.. Антоніа!.. Хлопцы!..»

Гарсіа. Мудрэц сказаў: гадзюка заўсёды і ўсюды крыва паўзе. Прама толькі ў сваю нару залазіць.

Антоніа. Рэвалюцыю трэба рабіць чыстымі рукамі. Толькі тады яна будзе народнай рэвалюцыяй.

Заслона.



# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## Карціна чацвёртая

Пакой у доме Эрнандас. Рыкарда і Кладаміра.

Рыкарда *(разглядвае карты)*. Цяпер ён ад мяне не ўцячэ...

Кладаміра. Ты пра каго? Пра Камача?

Рыкарда. Пра яго.

Кладаміра. Я б хацела зразумець гэтага чалавека. Што штурхае яго на бандытызм. З выгляду ён не такі люты.

Рыкарда. Уся гэта рэвалюцыйная брыдота, калі ёй выгадна, надзявае маску памяркоўнасці і дабраты. А па сутнасці гэта забойцы і гвалтаўнікі.

Кладаміра. Мы яго зловім, так?

Рыкарда. Так, мілая. Інакш нельга.

Кладаміра. Ты ў мяне смелы, Рыкарда. І я люблю цябе. Мы зловім яго і паедзем у Гавану... Так?

Рыкарда маўчыць.

Ты мяне не чуеш, Рыкарда?

Рыкарда. Чую. Мы хутка паедзем. Хутка. Цяпер пастка зачыніцца ў патрэбны момант.

Кладаміра. Ты разумнік, Рыкарда.

Рыкарда. Прабач, Кло! *(Здымае тэлефонную трубку і набірае нумар.)* Ало! Камісарас? Як ідзе аперацыя? Так... Так... Вельмі добра. Бізон выйшаў на сцежку, а ваўкі па следзе? *(Смяецца.)* Малайцы! Я чакаю сігналу. Папярэдзь Расенда! *(Кладзе трубку.)*

Кладаміра. Ты не вельмі рызыкуеш, мілы? Я баюся за цябе.

Рыкарда. Я абавязаны рызыкаваць, Кло, гэта мая прафесія. Але я буду асцярожны. Абяцаю табе.

Рыкарда зноў глядзіць на карту. Кладаміра бярэ гітару і ціха спявае.

Кладаміра. Дарагі мой, я шкадую, што выканала тваю просьбу і павесіла карту.

Рыкарда быццам не чуе.

Дарагі мой, можа ты адкажаш? Ты бачыў Педра Эрэйра?

Рыкарда. Педра?

Кладаміра. Дарагі мой, можа ты на хвіліну адарвешся і адкажаш мне? Бачыў ты Педра Эрэйра?

Рыкарда. Бачыў, сеньёра... Педра... А як жа... Сустрэў яго каля Віста Алегра, праехаў у яго машыне да праспекта Гарсан.

Кладаміра. Потым?

Рыкарда *(паказвае)*. Вось тут, на поўдзень ад Эль-Кобрэ, фідэлісты разграмілі карныя атрады...

Кладаміра *(незадаволеная)*. Потым?

Рыкарда. Потым? Больш трохсот салдат і афіцэраў узята ў палон... Многа трафеяў... патрэбная ім зброя...

Кладаміра *(абурана)*. Потым?

Рыкарда. Чамусьці яны не захацелі, а то ўзялі б Эль-Кобрэ і падступілі б да Сант'яга.

Кладаміра *(гнеўна)*. Далей!

Рыкарда. Разграмілі б нас. Гэтымі днямі генерал Радрыгес атакуе Фідэля і спаліць С'еру. А то сілы паўстанцаў растуць, нібы ў казцы... А ты чула, мілая, якім здраднікам стаў Веласка? Гэта не духоўны айцец, а сатана!

Кладаміра *(устае)*. Карамба! Я не хачу цябе больш слухаць!
Рыкарда *(адышоўшы ад карты)*. Што з табой, Кладаміра?
Кладаміра *(насмешліва)*. Дарагі мой, можа ты ўсё ж адкажаш?.. Ты і Педра...
Рыкарда. Так, мілая, разам ехалі...
Кладаміра. Потым?
Рыкарда. Потым? Потым я прыйшоў да цябе.
Кладаміра. Санта Марыя!
Рыкарда. А-а... Зразумеў... Я ўсё яму сказаў.
Кладаміра. Што ён адказаў?
Рыкарда. Ён згадзіўся, нават заззяў: у яго трупе будзе спяваць пляменніца самога Ігнасіа Банітэ! Спявае Кладаміра Эрнандас! Гэта не жарты! Гэта грандыёзная рэклама! Так, мілая, ты будзеш спяваць у Гаване.
Кладаміра. Мне здаецца, мае бацькі больш знакамітыя, чым дзядзька... Акрамя таго, рэальная справа лепш, чым размовы.
Рыкарда. Ты зноў незадаволена?

Уваходзіць слуга.

Слуга. Быў нейкі незнаёмы чалавек і прынёс вось гэта. *(Перадае Кладаміры маленькую скрыначку разам з пісьмом і выходзіць.)*
Рыкарда. Відаць, пісьмо ад сеньёры Мерсадэс. Яна, мусіць, плача па сваім брыльянтавым кальє. Прыехаўшы ў Гавану, скажа мужу, што згубіла, а на самай справе...
Кладаміра. Ты зноў за сваё?
Рыкарда. Бандыты! Яны гатовы абабраць усю Кубу. А жанчыну тым больш. Жарцікі — яе кальє каштавала некалькі тысяч долараў.
Кладаміра. Малайцы Антоніа Камача і Франка Пайса нападаюць на ваенныя казармы, паліцэйскія ўчасткі, склады са зброяй, а не на мірны народ.
Рыкарда. Апошні час ты сімпатызуеш ім, і я не ведаю, чым гэта скончыцца.
Кладаміра *(чытае пісьмо)*. «Пасылаем кальє, якое вы згубілі». Подпісу няма. *(Адчыняе скрыначку і вымае кальє.)* Што ты скажаш, Рыкарда?
Рыкарда. Нейкае непаразуменне! Нічога не разумею.
Кладаміра. Непаразуменне?

Чуваць выбухі і стрэлы.

Рыкарда. Зноў яны!
Кладаміра. Дарагі мой, а гэта зразумела? *(Смяецца.)*
Рыкарда. Кладаміра!

Уваходзіць Банітэ.

Банітэ. Табе весела, дзяўчо?
Кладаміра. Мне радасна, дзядзя. Рыкарда кажа, што ён злавіць твайго паэта.
Банітэ. Карамба! Гэты бандыт яшчэ на волі толькі таму, што паліцыя баіцца яго арыштаваць, а гарнізон развесіў вушы. Кажуць, нядаўна, калі яго злавілі, ніводзін паліцэйскі ўчастак яго не прыняў, баючыся, што раніцай народ нападзе на іх.
Кладаміра. Я хачу адпомсціць.
Банітэ. Гэта, мусіць, не ўдасца.
Рыкарда. Глупства! Трэба верыць у сябе. Упэўненасць заўсёды прыносіць удачу.
Банітэ. Генералу Радрыгесу залішняя ўпэўненасць прынесла няўдачу. Яго карнікі знішчаны. Больш трохсот салдат і афіцэраў. Астатнія ледзь уратаваліся.
Кладаміра. Генерал — бяздар. Яму б загадваць пансіянатам паралітыкаў, а не камандаваць арміяй.

Звоніць тэлефон. Рыкарда здымае трубку.

Рыкарда. Зразумела! Чакай мяне, Кло! Я неўзабаве вярнуся. *(Ідзе.)*
Кладаміра. Хто ж паведаміў ім пра выступленне атрадаў?
Банітэ. Пракляты поп Веласка. Камача прыслаў запіску: «Я вельмі шкадую, генерал, але вымушаны пакалашмаціць вашы атрады».
Кладаміра. Зноў гэты Камача!
Банітэ. А хто ж! Ён тут днюе і начуе і смяецца з нас.
Кладаміра. Ён спрытняга. Правучыў генерала. Я пачынаю паважаць яго.
Банітэ. Што за глупства, Кладаміра!

Уваходзіць Расарыа.

Расарыа. Зноў у горадзе нешта жахлівае. Усюды аблавы, стрэлы, праверка дакументаў.
Банітэ. Гэта адзіны выхад.
Расарыа. Кладаміра, я вельмі прашу, будзь асцярожная, не выходзь з дому. Проста дзіва, як вы вырваліся з рук гэтых бандытаў!
Кладаміра. Да нас паставіліся як найлепш. Я гэтага не чакала. Яны не такія страшныя.
Расарыа. А ў Мерсадэс адабралі кальє. Такая тонкая рэч. Шкада.
Кладаміра. Кальє? Вось яно.
Расарыа. Адкуль яно ў цябе?
Кладаміра. Прыслалі гэтыя... *(з іроніяй)* бандыты і рабаўнікі... *(Аддае кальє Расарыа.)*

Далёкі выбух.

Банітэ. Я не адзінокі ў сваім горы. Будзьце пракляты!

Недзе паблізу стрэлы. Банітэ ўглядаецца ў акно.

Ага, некага ўзялі.
Расарыа. Гэтая страляніна дзейнічае мне на нервы. Зноў льецца кроў... Зноў б'юць, страляюць, ловяць... Людзі бязлітасныя адзін да аднаго. *(Выходзіць.)*

Зноў стрэлы.

Кладаміра. Хутчэй бы ў Гавану. Там іншы свет, іншыя людзі. Там спакойна. Няма вар'ятаў...
Банітэ. А калі і там?..
Кладаміра. Не, там урад, прэзідэнт. Яны не дазволяць.
Банітэ. А тут — Радрыгес. Сябар прэзідэнта. Але і гэтага сябра скубуць. Ён прывык расстрэльваць бяззбройных. Іншай практыкі ў яго не было... У цябе няма тут выпіць, дзіцятка?
Кладаміра. Навошта ты так многа п'еш?
Банітэ. На гэтым свеце ўсё вельмі змрочнае. А віскі памагаюць мне бачыць свет такім, якім я хачу яго бачыць. Сястра гаспадарлівы чалавек. Пайду пашукаю... Ты не сярдуй, дзяўчынка, так мне лягчэй. *(Ідзе.)*

Нехта стукае ў дзверы.

Кладаміра. Хто гэта можа быць? *(Адчыняе дзверы.)*

У пакой урываецца Антоніа Камача з пісталетам у руцэ. Ён цяжка дыхае.

Антоніа. Не палохайцеся! *(Зачыняе дзверы.)*
Кладаміра. Гэта нахабства, сеньёр!

Антоніа. Прашу прабачыць, але іншага выхаду ў мяне не было.
Кладаміра. Я зараз закрычу.
Антоніа. Я не думаў, што вы такая баязлівая. Але гэта можна даравоць прыгожай жанчыне.
Кладаміра. Хто вы?
Антоніа. Ваш заложнік.
Кладаміра. Вы мяцежнік?
Антоніа. Нейкім чынам.
Кладаміра. А калі я вас выдам?
Антоніа. Вы гэта не зробіце.
Кладаміра. Чаму так думаеце? Ці я, мяркуеце, не адважуся?
Антоніа. Ангел не зробіць так, як сатана.
Кладаміра. Вы гэта кажаце дзеля свайго ратунку, а не таму, што...
Антоніа. Так, ангел... Але хто ведае, якія ў вас думкі і што ў вас на сэрцы.
Кладаміра. Як вы можаце сумнявацца ў годнасці другіх, калі вас саміх ловяць як злачынцу?
Антоніа. Невіноўны перад беззаконнем і несправядлівымі — заўсёды вінаваты, і таму мяне не здзіўляюць вашы словы...
Кладаміра. Я недзе вас бачыла... Дзе? (*Хвалюючыся.*) Ах, вы Антоніа Камача!
Антоніа. Так, сеньярыта!
Кладаміра. Мне хочацца вас павесіць. Вельмі хочацца, каб вы прасілі літасці і поўзалі на каленях ад страху. Навошта вы займаецеся грабяжом? Навошта вы спалілі склады з цукрам?
Антоніа. Мы не хочам, каб нашым цукрам вы кармілі янкі. Мы — рабы на сваёй зямлі, тут усё належыць амерыканцам, а наш народ галадае...
Кладаміра. Вы перабольшваеце, Камача! У кожнага свой лёс. У жыцці не ўсё так змрочна.
Антоніа. Вы чыталі кнігі свайго бацькі, сеньярыта? Ён не лічыў, што чалавек цацка ў руках лёсу. Але дзе ён цяпер, ваш бацька? Яго схавалі ў вар'яцкі дом, і ён памёр там ад тугі і адзіноты...
Кладаміра. Гэта няпраўда! Мне маці казала, што ён памёр таму, што ў яго было хворае сэрца.
Антоніа. Вы наіўная дзяўчынка. Каб жыў ваш бацька, я ўпэўнены, вы інакш глядзелі б на многае.
Кладаміра. Скажыце, чым вам падабаецца жыццё, якім вы жывяцё? Бо вы ўвесь час ходзіце па лязу нажа. Вы разумны чалавек і так неразумна рызыкуеце сваім жыццём. У імя чаго?
Антоніа. У імя свабоды, а гэта даражэй за жыццё.
Кладаміра. У вас не было свабоды?
Антоніа. Яе не было ў народа.
Кладаміра. Глупства. Людзі — звяры. Зрабіць, каб усім на зямлі было добра, немагчыма.
Антоніа. Можна.
Кладаміра. Гэта кажаце вы.
Антоніа. Не, гэта сказаў Фідэль.
Кладаміра. Я яму таксама не веру.
Антоніа. А Хасэ Марці? А вашаму бацьку — таксама?

Кладаміра амаль з захапленнем пазірае на Антоніа.

Кладаміра. Я... Я ж...



Антоніа. Вы цудоўная дачка свайго славутага бацькі. Вы добрая дзяўчына. Вам таксама трэба быць у гарах, змагацца за свой народ.
Кладаміра (*не вельмі ўпэўнена*). Мяцежнікі — не народ...
Антоніа. Мяцежнікаў было дванаццаць чалавек, а цяпер тысячы.
Кладаміра. Але...

Нехта торгае за дзверы.

Антоніа. Прыйшлі. (*Настаўляе пісталет на дзверы.*) Лепш паспрабаваць прабіць сабе дарогу, чым каб мяне выдалі вы. (*Ідзе да дзвярэй.*)
Кладаміра (*становіцца перад ім*). Не рызыкуйце... Вось сюды. (*Хавае Антоніа.*)

Чуцен стук у дзверы.

Рыкарда. Кладаміра, адчыні дзверы!
Кладаміра. У чым справа? Што за шум? (*Адчыняе дзверы.*)

Урываецца з пісталетам у руках Рыкарда.

Рыкарда. Дзе ён?
Кладаміра. Хто? Што здарылася?
Рыкарда. Як? Ты нічога не чула? Ён паспеў уцячы і скокнуў у ваш двор...
Кладаміра. Хто?
Рыкарда. Антоніа Камача. Чуеш, сам Антоніа Камача!
Кладаміра. Антоніа Камача!?
Рыкарда (*крычыць у другі пакой*). Абшукайце, праверце ўсюды.

Рыкарда накіроўваецца туды, дзе схаваны Антоніа. Калі ён падыходзіць зусім блізка, Кладаміра крычыць.

Кладаміра. Рыкарда!
Рыкарда (*хутка паварочваецца, узводзіць курок*). Што здарылася?
Кладаміра. Вось у гэтыя дзверы некалькі хвілін таму нехта моцна грукаў, але я спалохалася і не адчыніла...
Рыкарда (*крычыць у другі пакой*). Вы спусціцеся туды, а я пайду адсюль.

Кладаміра адчыняе дзверы, Рыкарда знікае.

Кладаміра (*прыхінаецца да дзвярэй і з палёгкай уздыхае*). Дзякуй, Санта Марыя! (*Падыходзіць да акна і крадком глядзіць на двор.*)

У гэты час з другога боку уваходзіць Расарыа.

Расарыа. Кладаміра!
Кладаміра. Мама!
Расарыа. Што адбываецца ў нашым доме?

У дзвярах паяўляецца Рыкарда.

Рыкарда. Шукаем злачынцу.
Расарыа (*незадаволеная*). З якой пары мой дом стаў сховішчам злачынцаў?
Рыкарда. Прабачце, сеньёра... Я зараз жа загадаю салдатам пакінуць дом.
Кладаміра. Лепш было б з самага пачатку не прыводзіць іх. Якая ганьба!
Рыкарда. Мы памыліліся. Ён не адважыўся б сюды... Гэты бандыт, відаць, скокнуў у суседні двор. Да пабачэння, сеньёра Расарыа. Да пабачэння, Кладаміра. Увечары я зайду. Мы павінны пайсці да Эрэйра. (*Выходзіць.*)
Расарыа. Дзякуй богу, што яго не знайшлі ў нашым доме. Рыкарда разнёс бы па ўсім горадзе: злачынцу арыштавалі ў доме Эрнандас!

Кладаміра. Ты пра каго, мама?

Расарыа. Божа, што робіцца! Мяцежнікі напалі на паліцэйскі склад і разабралі зброю. Камача арыштавалі, але гэты бандыт здолеў уцячы. Таму салдаты і ачапілі наш квартал.

Кладаміра. Чаму ён бандыт?

Расарыа. А склады? Ігнасія пастарэў на дзесяць год. Гэты падпальшчык усіх настроіў супраць сябе. Праз яго ў горадзе ўведзена асаднае становішча. Але, кажуць, ёсць загад Батысты. Камача не арыштоўваць, а расправуляцца з ім на месцы. Правільна.

Кладаміра. Мама, я не пазнаю цябе! Ты ж мухі ніколі не пакрыўдзіла!

Антоніа *(выходзіць са свайго сховішча)*. Але мяне пакрыўдзіла.

Расарыа *(спалохана.)* Хто вы?

Антоніа. Бандыт. Антоніа Камача. Арыштуйце мяне.

Расарыа. Як вы сюды трапілі? Як маглі?

Антоніа. Мяне прымусілі. Мне нічога не аставалася рабіць.

Расарыа. Неадкладна пакіньце мой дом!

Антоніа. Калі я гэта зраблю, мяне арыштуюць ці, як я даведаўся з вашых слоў, расстраляюць на месцы. Вам лепш выклікаць паліцыю ці салдат. Так зручней.

Расарыа. Як? Каб я арыштавала? Я?

Антоніа. А тое, што вы гоніце мяне, не тое самае? Чалавека забівае страла, а віноўнік — той, хто яе пускае.

Расарыа. Я нікому не дазволю ўблытваць маю сям'ю, мой дом, маё імя ў гэту брудную палітыку! Я вас прашу неадкладна пакінуць мой дом!

Антоніа. Ваш дом я заўсёды лічыў святым месцам... Я некалі захапляўся вашымі вершамі і схіляў галаву перад вашым мужам. Каб ён быў жывы, ён быў бы з намі...

Расарыа *(азіраючыся на Кладаміру)*. Ідзіце. Вы дзяржаўны злачынца, вы са зброяй у руках змагаецеся супраць законнай улады.

Антоніа. Не, вы памыляецеся, сеньёра Расарыа. Наш настаўнік Фідэль Кастра гаварыў, што дыктатура, якая бязлітасна прыгнятае нацыю і дзякуючы гвалтоўніцтву, мане, стала на чале дзяржавы, не з'яўляецца законнай уладай. Яна павінна быць і будзе нізрынута!

Расарыа. Я не хачу вас слухаць. *(Затыкае вушы.)*

Кладаміра. Не, няхай гаворыць.

Расарыа. Кладаміра!

Кладаміра. Так, мама.

Расарыа. Ты хочаш, каб я выслухала таго, праз каго льецца кроў і чыніцца беззаконне? Не, не і не!

Антоніа. Сеньёра Расарыа, няўжо вы, хто так любіць радзіму, не адчулі, як пакутуе наша бацькаўшчына? Не задумаліся хоць раз над тым, што Куба для кубінцаў стала пеклам, а для янкі — казачным раем?

Расарыа *(прыхінаецца да сцяны)*. Вы бязлітасны чалавек, Антоніа Камача.

Антоніа. Любві да радзімы я часткова навучыўся ў вашых кнігах. Гэта яны памаглі мне зразумець, што «Юнайтэд фрут компані», «Фрыд порт салферс» і іншыя да іх падобныя п'яўкі смокчуць і рабуюць нашу краіну, топчуць годнасць нашага народа.

Расарыа *(знясілена апускаецца ў крэсла)*. Замаўчыце, я вас малю.

Антоніа. Ці мае права кубінец, які любіць сваю радзіму, раўнадушна глядзець на гэта? Ці памятаеце вы?..

Даўно нас хочуць пазбавіць хлеба,
Удар нанесці нам з-за спіны.



Мы ведаем, ворагу нашаму трэба,
Каб вы скарыліся, Кубы сыны.
Наперад, Лас-Вільяс, за справядлівасць.
За светлае сонца над галавой!
Мы не здадзімся панам на літасць —
Нас родная Куба кліча на бой.

Далей, сеньёра Расарыа, як далей?

Расарыа *(памаўчаўшы)*.

Да перамогі вядзе дарога,
Смялей ідзіце і весялей!
Салдаты праўды ідуць — іх многа,
Ідзе на бітву Камагуэй.
Узвіся песня! Скажы ўсяму свету,
Што мы ў гарачых сэрцах нясём
Гул вадаспадаў — каскадаў светлых —
І эквадорскіх вулканаў гром.

Антоніа. Успомніў, успомніў...

Даволі рабства, даволі гора,
Хай гімн адважных ляціць далей,
Хай вольнай птушкай ляціць над морам
І хай адважных кліча людзей.

Кладаміра. Мама, ты пісала гэта?

Расарыа маўчыць.

Антоніа. Так, сеньярыта. Гэта пісала ваша маці дзесяць год таму назад. І мы, ва ўніверсітэце, збіраючыся начамі, з захапленнем чыталі гэтыя вершы... Што здарылася з вамі, сеньёра Эрнандас? Дзе вы? І з кім цяпер?

Паўза.

Расарыа. Дапусцім, вы гаворыце праўду, патрэбна барацьба. Але за ёй непазбежна пойдуць ахвяры... І ці ёсць надзея, што вы пераможаце?

Антоніа. Каб не было надзеі, будучыня была б пеклам. Але ахвяры непазбежныя.

Расарыа. Але гэта азначае: зноў смерць, зноў кроў? Гэта жахліва.

Антоніа. Крыві ў гэтай барацьбе пральецца ў мільён разоў менш, чым праліваецца кожны дзень на нашым востраве ва ўмовах рабства. Таму мы кажам: «Радзіма або смерць!» Часта, вельмі часта, мілая Кладаміра...

Кладаміра. Як вы сказалі?

Антоніа. Прабачце, калі я гляджу на вас, дык не магу звяртацца да вас з іншымі словамі.

Кладаміра *(пасля паўзы)*. Вы кажаце: часта, вельмі часта...

Антоніа. Часта, вельмі часта мне не дае спакою сумленне. Мне здаецца, што я ем хлеб, якога не хапае кубінскім дзецям, што паміраюць ад голаду. Быць чалавекам — значыць паважаць і любіць тых, хто разам з табой працуе і жыве пад адным сонцам, дзеліць радасць і гора.

Паўза.

Расарыа. Вы кажаце праўду, сеньёр Антоніа. Праца, хлеб, сонца і радасць павінны належаць усім.

Антоніа. Дык узніміце і вы свой голас! Ваша паэзія — ваша зброя! Ваша слова мацней за бомбу. Калі ўся Куба крыкне разам, ад улады Батысты нічога не застанецца.

Уваходзіць Мерсадэс.

Мерсадэс. Вы тут седзіцё і нічога не ведаеце, а ў горадзе адбываецца жахлівае.

Кладаміра. Што яшчэ магло здарыцца?

Мерсадэс. Горад кішыць мяцежнікамі, але многіх арыштавалі і некалькі хвілін назад амаль на маіх вачах забілі малодшага брата Антоніа Камача. Не памятаю імя.

Антоніа. Хасуэ?!

Мерсадэс. Хасуэ... А адкуль вы ведаеце?

Антоніа. Хасуэ!.. Хасуэ...

Ускоквае, але Кладаміра затрымлівае.

Кладаміра. Вам нельга пайсці...

Мерсадэс *(Расарыа)*. Я ўсе гэтыя ночы не спала праз гэта калье. Праклятыя мяцежнікі! Яны толькі крычаць, што змагаюцца за ідэю, а самі проста бандыты.

Расарыа. Хадземце, Мерсадэс, я хачу перадаць вам ваша калье.

Выходзяць. Кладаміра замыкае дзверы. Стук у дзверы, і чуцен голас Рыкарда: «Кладаміра, адчыні, гэта я».

Кладаміра. Што рабіць?

Антоніа. Адчыняйце.

Кладаміра. Схавайцеся сюды *(Паказвае на парцьеру)* і не спрачайцеся, калі хочаце астацца жывым і здабыць усім нам свабоду. *(Адчыняе дзверы.)*

Уваходзіць Рыкарда. Аглядае пакой і ідзе да парцьеры, за якой Антоніа.

Рыкарда. Дзень добры, Антоніа Камача!

Антоніа. Дзень добры, у вас неблагая памяць.

Кладаміра. Гэта мой школьны сябар. Запомні, Рыкарда.

Рыкарда. Не мае значэння, чый ён школьны сябар...

Кладаміра. Я дала яму слова, Рыкарда.

Рыкарда. Дом акружаны салдатамі. Спадзяюся, вы не будзеце спрабаваць уцячы?

Антоніа. Пакуль не.

Кладаміра. Рыкарда, абяцай мне, што ты не кранеш гэтага чалавека.

Рыкарда. Не абяцаю. Ты проста дурное дзяўчо. Ён вораг. Калі не мы яго, дык ён нас... Закон вайны.

Антоніа. Я забыў на гэты закон аднойчы.

Рыкарда. Вы не ведалі, хто мы.

Антоніа. Здагадацца было не цяжка. На вашай фізіяноміі напісана веліч вашай місіі. Думаю, што вы атрымаеце ордэн.

Рыкарда. Я атрымаю ордэн. Акрамя таго, за вас мне заплацяць даволі значную суму.

Кладаміра. Ідзіце, Антоніа. Ён не зробіць вам шкоды.

Антоніа. У такім выпадку, бывайце!

Рыкарда. Стаяць на месцы!

Антоніа. Не выйшла, школьная сяброўка. Яму трэба грошы, якія ён атрымае за маю галаву. Дробязны ён у цябе чалавек.

Кладаміра. Адпусці яго, чуеш?

Рыкарда. Не.

Кладаміра. Ты кахаеш мяне?

Рыкарда. Вельмі.

Кладаміра. Значыць, ты адпусціш яго.

Рыкарда. Не.

Кладаміра. Ты хочаш, каб я цябе ўзненавідзела?

Рыкарда. Супакойся, Кладаміра. Я не скажу, што ўзяў яго ў вашым доме. Добрае імя будзе выратавана.



Кладаміра. Я выручу вас, Антоніа. Даю слова.

Рыкарда. Не гавары глупства. *(Антоніа.)* Ну, хадзем!

Антоніа паволі ідзе, За ім Рыкарда. Кладаміра нейкі час стаіць нерухома, потым хапае плашч і хуценька выбягае.

Заслона.

## Карціна пятая

Кабінет генерала Хуана Радрыгеса. Радрыгес, Банітэ, Брогар. Радрыгес трымае ў руцэ пісьмо.

Радрыгес. Скажыце, што я павінен рабіць з аўтарам гэтага пісьма, калі ён трапіць мне ў рукі?

Банітэ. Праклсяты поп! Здраднік! Няхай толькі пападзецца!

Радрыгес. Гэта дробязі. Мяцежнікі двойчы на дзень перадаюць па радыё адозву Веласка. Многія газеты змясцілі фотакопіі гэтага пісьма, і, што горш за ўсё, Веласка, відаць, папярэдзіў Кастра, і наша наступленне не будзе для яго нечаканым.

Брогар. Наступленне ўсё адно павінна пачацца ў прызначаны час.

Радрыгес. Правільна. Адкладваць нельга. Але, на жаль, гэта аперацыя не будзе мець патрэбнага эфекта.

Брогар. Калі і гэта аперацыя не дасць патрэбных вынікаў, трэба ліквідаваць самога Кастра, і ўсе стане на месца.

Радрыгес. Будзьце ўпэўнены, што на гэты раз Кастра разам са сваімі бандытамі будзе знішчаны. Я распрацаваў бліскучую аперацыю.

Званок тэлефона. Радрыгес бярэ трубку.

Я! Што? Кладаміра Эрнандас? Дзіўна. Як яна магла тут апынуцца? Што? Ехала са С'ера? Неадкладна даставіць сюды. *(Кладзе трубку.)* Дваццаць дзевяты пост затрымаў Кладаміру... Дзіўна.

Банітэ. Дзяўчынка не думае пра небяспеку.

Радрыгес. Фідэлісты маглі схапіць яе і наздзекавацца. Яна неасцярожная ў вас, Банітэ...

Уваходзіць Рыкарда і Антоніа.

Рыкарда. Дзень добры, сеньёры! Дазвольце прадставіць вам Антоніа Камача. Вось што значыць верыць у поспех, сеньёр Ігнасіа.

Банітэ хапае мачэтэ і кідаецца да Антоніа. Брогар яго ўтрымлівае.

Банітэ. Дзень добры, абаронца прыгнечаных! Як жывяце?

Антоніа. Цудоўна. Ні на што не скарджуся.

Банітэ. Я вас даўно чакаю. Мы ўсе вас чакалі, і вяроўка таксама. *(Падміргвае.)*

Брогар *(пазнае)*. А-а!.. Гэта вы, сеньёр? *(Радрыгесу.)* Дык гэта сапраўды мяцежнік!

Радрыгес. Адкуль вы ведаеце?

Брогар. Гэты тып спрабаваў забраць у нас машыну. Дзякуй сеньярыце Кладаміры. Мяцежнік трапіўся ўражлівы, і яна напусціла на яго туману.

Банітэ. Гэта мой любімы паэт. З галавой хлопец. Але па ім даўно плача вяроўка.

Радрыгес. Брава, Рыкарда! Вы зрабілі нам дарагі падарунак. Мы развяжам гэтаму народнаму песняру язык, і ён прадасць нам Кастра з вантробамі.

Антоніа. Памыляецеся, генерал. Я не поп Веласка. Я нікога не збіраюся прадаваць. Я ведаю, куды ішоў, на што і па што.

Б р о г а р. Вы сапраўды збіраецеся скінуць урад?
А н т о н і а. Абавязкова.
Б р о г а р. А потым?
А н т о н і а. А потым мы выганім вас, і Куба стане зусім другая. Мы знойдзем сродак зрабіць яе непазнавальнай.
Б р о г а р. Лухта! Куба ніколі не здолее стаць раем без дапамогі Злучаных Штатаў.
А н т о н і а. Дзіўлюся, што вас, стопрацэнтнага янкі, так непакоіць лёс Кубы. Гэта, можа, таму, што ад Арыентэ да самага Камагуэя праляглі вашы цукровыя сентралі?
Р а д р ы г е с. Дурань! Як можна называць чалавека, які робіць бізнес у свабоднай краіне, каланізатарам?
Б р о г а р. Мы не замахваемся на незалежнасць Кубы. У Кубы свой дзяржаўны герб, свой сцяг, свой гімн, свой прэзідэнт, нарэшце, свая канстытуцыя. Што вам яшчэ трэба?
А н т о н і а. Усе гэтыя бутафорскія атрыбуты для падману і адурманьвання даверлівых людзей. Наш герб—цацка, наш гімн — песня Дон-Кіхота, наш сцяг — простая ануча, наш прэзідэнт — марыянетка ў руках Пентагона, а наша канстытуцыя — празрыстая шырма, якая не здольна схаваць бяспраўя і галечы нашага народа. І мы прагонім прэч з кубінскай зямлі і вашых лёкаяў і вас саміх, пан янкі.
Р а д р ы г е с. Пра сябе можаце не гаварыць. Вы — труп.
А н т о н і а. Я не адзін, нас тысячы. Усіх не павесіце.
Р а д р ы г е с. Маўчаць!
Р ы к а р д а. Ну што ж, у казармах Манкада ён паразумнее і ўсё скажа. Ён герой, пакуль не пасправабаваў расплаўленага волава.
Б а н і т э. Я не зайздрошчу вам. Гэта, мусіць, не вельмі прыемная штука — піць волава.
А н т о н і а. За мяне адпомсцяць.
Р а д р ы г е с *(Рыкарда)*. Адвядзіце яго да маёра Дэльгада. Няхай ён з ім пагутарыць па шчырасці.
Р а д р ы г е с. Слухаю! Праз пятнаццаць хвілін усё будзе ў парадку. *(Штурхае Антоніа.)* Хадзем, «школьны сябар»!

Выходзяць.

Р а д р ы г е с *(звоніць па тэлефоне)*. Дэльгада! Так, гэта я. Я накіраваў да цябе Камача, ты зрабі яму допыт па-свойму. Што?.. Правільна, учора ўвечары... *(Паклаў трубку.)*

У суправаджэнні салдата ўваходзіць К л а д а м і р а.

К л а д а м і р а. Дзень добры!
Б а н і т э. Як ты сюды трапіла?
К л а д а м і р а. Я ехала па цябе, дзядзя. Але заблудзілася, і... па мне стралялі...
Б а н і т э. Табе варта даць лазы за такія штучкі.
Р а д р ы г е с. Вы вельмі экспансіўная, дарагая Кладаміра. Але ўсё роўна я рады вас бачыць... Вы папрыгажэлі з той пары, калі мы бачыліся.
К л а д а м і р а. Вы яшчэ не развучыліся гаварыць кампліменты, генерал? Вельмі добра.
Р а д р ы г е с. Вам іх магу гаварыць гадзінамі.
К л а д а м і р а. Як прыемна! Я дарма вас крыўдзіла. Вы адзіны чалавек, які па-сапраўднаму даражыць мной...
Б а н і т э. Кладаміра! Генералу цяпер не да гэтага. Яго чакае радзіма...



Р а д р ы г е с *(раздражнёна)*. Радзіма пачакае. Я слухаю вас, Кладаміра. Я ўвесь увага... Гаварыце.
Б р о г а р *(ціха)*. Стары юрлівец...
Б а н і т э. Вы, генерал, карыстаецеся поспехам.
Р а д р ы г е с. Ваенныя ва ўсе часы карысталіся асаблівай увагай жанчын.
К л а д а м і р а *(Радрыгесу)*. Вашы патрулі пяць разоў спынялі маю машыну. Ім, відаць, гэта падабалася. Адзіным дакументам, які мне памог, была фатаграфія *(паказвае)*, на якой я з вамі, генерал. Цяпер я бачу, што павінна выйсці за вас замуж. Каб яе не было са мной, мяне, магчыма, арыштаваў бы які-небудзь патруль...
Б р о г а р. Гэтыя патрулі — разявы і дурні. Яны дарэмна не арыштавалі вас, Кладаміра! Хто ведае, што было ў вас у машыне? Можа, вы везлі зброю або гранаты фідэлістам?
Б а н і т э. Як вы можаце! Не забывайце, што яна мая пляменніца.
Р а д р ы г е с. Кіньце, Брогар! Кладаміру мы ведаем.
К л а д а м і р а. Вы хацелі зняважыць мяне, містэр Брогар?
Б а н і т э. Нічога, Кло! Брогар пажартаваў. Хочаш, я цябе абрадую?
К л а д а м і р а. Чым?
Б а н і т э. Твой рыцар злавіў майго любімага паэта.
К л а д а м і р а. Злавіў? І дзе ён?
Р а д р ы г е с. На лёгкай прафілактыцы... Ён упарты, але мы зробім яго больш памяркоўным.
К л а д а м і р а. Генерал, магу я ўбачыць таго, хто зрабіў мяне жабрачкай?
Б р о г а р. Катэгарычна пярэчу.
Р а д р ы г е с. Прабачце, сэр, пакуль яшчэ я тут камандую... Для вас, дарагая, я гатовы на ўсё! *(Звоніць па тэлефоне.)* Маёр? Ну як? *(Расчаравана.)* Маўчыць? Пачакайце пакуль з вашай порцыяй. Вядзіце яго да мяне. Тэрмінова. А Рыкарда Масфарэра няхай напіша рапарт, калі і пры якіх умовах злавіў мяцежніка Камача. Яго чакае ўзнагарода.
К л а д а м і р а. Порцыя? Яго што, кормяць?
Б а н і т э. Ты якраз пацэліла, дарагая. Яго так накормяць, як ён не еў ніколі ў жыцці!
К л а д а м і р а. Генерал, у мяне да вас просьба. Дайце мне пропуск ці дазвол. Я не хачу, каб па дарозе назад мяне абмацвалі і частавалі жарцікамі... Дзядзя, мама хоча цябе бачыць. Ёй прапануюць здзелку, але яна не можа адважыцца.
Б а н і т э. Сёння буду ў яе.
Р а д р ы г е с *(падпісвае дакумент і дае Кладаміры)*. Вазьміце. Я заўсёды да вашых паслуг.
К л а д а м і р а. Мы вас таксама чакаем, генерал. Я вас чакаю.
Р а д р ы г е с. Я шчаслівы. Увечары абавязкова буду ў вас.

Уводзяць усяго ў крывавых падцёках А н т о н і а.

Б а н і т э. У вас на дзіва цікавы выгляд. Вы цудоўна выглядаеце... Але мяне блажыць... Я пайду. У вас, генерал, выдатныя мяснікі, і яны ведаюць сваю справу. Падзякуйце ім ад майго імя.
Б р о г а р. Я пайду з вамі. Мне трэба пазваніць у Гавану.

Выходзяць.

К л а д а м і р а. Ну што, Камача, будзеце яшчэ паліць склады, будзеце пакідаць прыстойных людзей жабракамі?
А н т о н і а. У вашага жаніха сапраўды ёсць вопыт. Ганарыцеся.
К л а д а м і р а. У вас высокага класа каты, генерал.

Радрыгес. Я пакляўся злавіць яго. Вось ён, няўлоўны, страшны Камача...

Кладаміра *(ціха да Антоніа)*. Трымайцеся, Антоніа.

Уваходзіць салдат.

Салдат. Генерал, прыехалі нейкія сеньёры. З сабой яны прывезлі звязанага папа́ і просяць прапусціць іх.

Радрыгес. Папа́? Прапусціце. Неадкладна!

Салдат выходзіць.

Няўжо гэта Веласка? Санта Марыя, які ўдачлівы дзень!

Салдат уводзіць узброеных Каміла і Гарсіа, якія ўцягваюць звязанага Веласка.

Каміла. Сеньёр генерал! Мы — я і *(Паказвае на Гарсіа.)* сеньёр Мачада з Ла-Платы — ехалі ў Байяма. Некалькі гадзін таму назад нашу машыну спынілі два фідэлісты, што выйшлі з лесу, і гэты святы айцец...

Веласка нешта мэкае, яму замінае шаўковая покрыўка, што павязана на галаве.

Радрыгес. Далей!

Каміла. Нас спынілі і, пагражаючы зброяй, прымусілі давезці іх да цукровага сентраля містэра Брогара. Як мы толькі прыехалі, гэты свяшчэннік наладзіў там мітынг і пачаў заклікаць народ памагаць Кастра, а салдат Батысты забіваць.

Радрыгес. Далей, далей... Што яшчэ рабіў гэты сабака?

Гарсіа. Пасля мітынгу свяшчэннік загадаў нам везці яго назад і па дарозе ўгаварваў нас ехаць у Сант'яга і перадаць атаману іх шайкі, Камача, сакрэтную запіску. Вось яна. *(Перадае запіску генералу.)*

Радрыгес. Далей... *(Чытае запіску.)*

Веласка ссунуў покрыўку з галавы, намагаецца нешта сказаць.

Каміла. Але мы справіліся з ім. Больш не будзе каламуціць ваду. А яшчэ свяшчэннік! Ай-ай-ай! Нядобра, сеньёр свяшчэннік!

Радрыгес. Вось яно што! Вельмі добра. Вельмі дарэчы.

Веласка *(амаль раве)*. Брэшуць, брэшуць яны.

Радрыгес. Можа яны кажуць няпраўду, што ты Веласка? І што не ты вёз гэтую запіску?

Веласка. Пазналі мяне? Дзякуй богу. Сеньёр, не слухайце іх! Гэта яны самі...

Радрыгес. Маўчы, поп! Ты ведаеш, колькі шкоды прынёс ты нам! Колькі веруючых адвярнулася ад нас праз цябе!

Веласка. Я не вінаваты. Мяне прымусілі.

Радрыгес *(раззлавана)*. Маўчы! Або я цябе прымушу замаўчаць навечна! *(Да Каміла.)* Гаварыце далей!

Каміла. Там, у сентрале, ён усяляк лаяў уладу, вас, генерал, гаварыў, што вы правакатар і здраднік. Вы прадалі народ...

Веласка мычыць.

Радрыгес. Сабака! *(Выштурхвае Веласка ў другі пакой, замыкае дзверы, ключ кладзе на стол, потым звяртаецца да Каміла і Гарсіа.)* Што было потым?

Гарсіа. Потым будзе далей, а зараз...

Каміла і Гарсіа выхопліваюць пісталеты.

Ціха, генерал... Ні гуку.

Радрыгес. Што?



Антоніа. Генерал... Я спачуваю вам. Але вашых катаў я не забуду. Дзякуй, сіньярыта Кладаміра!

Радрыгес. І вы? Божа, які стаў свет...

Кладаміра. Я — не... Я проста паклялася выратаваць гэтага чалавека.

Каміла. Званіце начальніку варты, каб нас выпусцілі адсюль. Не марнуйце нас, генерал! *(Нешта робіць ля акна з тэлефонным провадам.)*

Радрыгес. Добра. *(Здымае трубку.)* Начальніка варты... *(Раптам крычыць.)* Трывога! Каравул! За зброю! Зараз жа да мяне!

Каміла *(спакойна)*. Вы надта порсткі, генерал! Вы не беражэце сваю галаву, а яна яшчэ можа спатрэбіцца. *(Злучае правады.)* Вось цяпер гаварыце, але памятайце пра галаву.

Радрыгес *(у трубку)*. Ало! Прапусціце людзей, што прывезлі свяшчэнніка.

Каміла. Нас чацвёра.

Радрыгес. Іх чацвёра.

Гарсіа. Разам са свяшчэннікам.

Радрыгес. Разам са свяшчэннікам.

Каміла. Вось гэта па-джэнтльменску.

Гарсіа. Люблю свядомых людзей.

Каміла. А цяпер напішыце нам пропуск на машыну, каб нас нідзе не затрымлівалі.

Гарсіа. Хутчэй!

Генерал піша пропуск. Як толькі ён скончыў, Гарсіа б'е яго рукаяткай пісталета па патыліцы. Генерал падае на падлогу, затым яго пераносяць у той пакой, дзе замкнуты свяшчэннік.

Кладаміра. Але гэта вельмі бязлітасна!

Антоніа. Гэта адзіны выхад.

Кладаміра. Што будзе?

Антоніа. Мы зараз паедзем. А вы?

Кладаміра. Я таксама.

Антоніа. Адна?

Кладаміра. З вамі. У мяне машына і пропуск. Хадземце.

Кладаміра захінае Антоніа ў свой плашч, і яны абое выходзяць. Гарсіа і Каміла выносяць свяшчэнніка. Гарсіа зачыняе дзверы на ключ, ключ кладзе на стол. Каміла адчыняе дзверы, што знадворку, і кліча дзяжурнага салдата.

Каміла. А ну, памажы пасадзіць папа́ ў машыну.

Уваходзіць дзяжурны салдат.

Гарсіа. Загад генерала... *(Паказвае дакумент.)* Папа́ вязем у Сант'яга.

У гэты час уваходзяць Брогар і Банітэ, якія чуюць апошнія словы Каміла.

Банітэ. Хто гэты свяшчэннік?

Каміла. Веласка! Нягоднік Веласка, якога мы захапілі і па загаду генерала Радрыгеса *(Паказвае дакумент.)* вязем у Сант'яга...

Гарсіа. І павінны здаць у казарму Манкада.

Свяшчэннік узнімае галаву, нешта мычыць, але Банітэ б'е яго, і свяшчэннік змаўкае.

Банітэ. Прэч з вачэй!

Гарсіа і салдат нясуць свяшчэнніка. Брогар спыняе Каміла.

Брогар. А дзе сам генерал?

Каміла. Генерал з нейкай дзяўчынай зайшоў сюды... *(Шматзначна міргае і паказвае на дзверы, за якімі генерал.)*

Брогар. Я не дарэмна казаў, што ён стары юрлівец.

Каміла выходзіць. Банітэ з нянавісцю глядзіць на дзверы.

Банітэ. Нягоднік!.. *(Са злосцю махае кулакамі і ідзе да дзвярэй.)*

Брогар становіцца перад ім, не пускаючы. Уваходзіць Рыкарда.

Рыкарда *(размахвае паперкай)*. А вось і мой рапарт... Павіншуйце, мне за Камача належыць значная сума.

Банітэ. Гэта ты атрымаеш.

Рыкарда. Дваццаць тысяч песа. Можа, яшчэ і ордэн.

Банітэ. Тваю ўзнагароду генерал рыхтуе ў тым пакоі.

Рыкарда. А дзе Камача?

Брогар. Відаць, здалі маёру на дапрацоўку.

Рыкарда бярэ тэлефонную трубку.

Рыкарда. Ало! Ало! Сірэна! Чорт бы на вас, заснулі, ці што?

Банітэ. Спакойна, Рыкарда, тут патрэбен дробны рамонт. *(Злучае парваны провад.)*

Рыкарда *(звоніць па тэлефоне)*. Маёр Дэльгада! Камача ў вас? Не?! *(Кідае трубку.)* Дзе Камача? Дзе генерал?

Банітэ. І дваццаць тысяч песа?

Рыкарда. Вам смешна, а нас абвялі вакол пальца...

Брогар. Не нас, а вас. Вы — служба бяспекі, чорт бы вас забраў...

Стук у дзверы.

Рыкарда. Хто там?

Голас Веласка. Выслухайце мяне, пакуль не позна.

Рыкарда заўважае на стале ключ і сам адмыкае дзверы. Веласка ўбягае ў споднім бялізне і ашалелымі вачамі глядзіць на прысутных.

Рыкарда. Веласка!

Брогар, Банітэ *(разам)*. Веласка!

Веласка. Дзе ён? Укралі?! Ён не паслухаў мяне, сляпы!

Банітэ. Каго шукаеце?

Рыкарда. Каго ўкралі?

Веласка. Генерала... Генерала Хуана Радрыгеса.

Брогар. Я так і ведаў... Дурныя пні!

Банітэ. Прапаў генерал... Марыў быць міністрам.

Рыкарда *(падбягае да тэлефона)*. Крышталь, Крышталь!.. Ці прайшла машына? Ці прайшла машына?.. З дазволу генерала Радрыгеса? Што? Нават дзве?! *(Кідае трубку.)* Прайшлі.

Брогар. Аслы!

Банітэ. Карамба!

Заслона.

*Працяг будзе.*